Лад жыцця

Леанід ГУЛЯКА:

"ВОПЫТ ЛІДЧАН КАРЫСНЫ ДЛЯ ЎСІХ РЭГІЁНАЎ БЕЛАРУСІ"



Стар. 5




Стар. 4

Падрабязнасці



На Еўрабачанні-2006 будзе саліраваць Паліна Смолава

Стар. 16

Кошт у Беларусі 1 000 рублёў.

Газета выходзіць у другі і чацвёрты чацвер месяца.

# Голас Радзімы

9 сакавіка, 2006

№10-11 (2984 — 2985)

Газета з Беларусі

Выдаецца з 1955 года

Уражанні

У складзе ўдзельнікаў III Усебеларускага народнага сходу быў 21 прадстаўнік беларускай дыяспары з 12 краін.

Стар. 2,10

Весткі з суполак

## БГКТ — трываласць традыцый



У Беластоку адбыліся ўрачыстасці з нагоды 50-годдзя Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Ва ўрачыстых мерапрыемствах прыняла ўдзел афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале з намеснікам міністра культуры Валерыем Гедройцам. За значны ўклад у развіццё беларускай культуры і адукацыі ў Польшчы і ў сувязі з 50-годдзем БГКТ узнагароджана Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Стар. 8

NEWS FROM BELARUS

page 3

Зваротная сувязь

## Вузельчыкі памяці Іаланты Вільконьскай



Стар. 12

Паэтычны чацвер

## Прыгажуні

"Літаратурнага прадмесця"



Стар. 13

**Да ўвагі чытачоў!**

Наступны нумар газеты "Голас Радзімы" выйдзе 23 сакавіка 2006 года

Падзея: III Усебеларускі народны сход

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

# "ДЗЯРЖАВА ДЛЯ ЧАЛАВЕКА"



*У Мінску прайшоў III Усебеларускі народны сход. У якасці яго дэлегатаў у мінскім Палацы Рэспублікі сабраліся 2 500 чалавек: кіраўнікі, рабочыя, вяскоўцы, студэнты, ваенныя, пенсіянеры — фактычна прадстаўнікі ўсіх слаёў насельніцтва Беларусі, а таксама замежныя госці. Адкрываючы сход, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў "гістарычную значнасць" падобных мерапрыемстваў. Так, падчас першага сходу, калі краіна кацілася ў бездань, народ аб'яднаўся, адмовіўся ад шокавай тэрапіі і выбраў эвалюцыйны шлях сацыяльна-эканамічнага развіцця.*

Калі б што-небудзь з вырашанага тады было зроблена па-іншаму, то, упэўнены Аляксандр Лукашэнка, мы "былі б іншай краінай, а, магчыма, і наогул не захавалі сваю дзяржаву". Другі сход прыняў беларускую мадэль эканамічнага развіцця. Цяпер, калі адбываецца трэці сход, "Беларусь — ужо не тая, што была 10 гадоў таму. Мы ўпэўнена стаім на нагах, далёка адышлі ад крызісу, добра ведаем, што і як нам будаваць у нашай краіне". Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, Беларусі дорага далося зробленае, каб не пайсці па шляху, да якога штурхаюць заходнія стратэгі і беларуская апазіцыя. "Калі цяпер захаваем дасягнутыя тэмпы і важнейшыя накірункі развіцця, — адзначыў ён, — значыць, даб'ёмся галоўнага — кардынальнага паляпшэння жыцця нашых людзей". Ме-

Заканчэнне на 2-й стар.

Віншуем!

# Уручаны медалі Героя Беларусі



*Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ўручыў медалі Героя Беларусі Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі, кіраўніку Творчых акадэмічных майстэрань жывапісу, графікі і скульптуры Міхаілу Савіцкаму, генеральнаму дырэктару НДРУП "Белаўтатрактарабудаванне" НАН Міхаілу Высоцкаму, старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Пятру Пракаповічу, кіраўніку сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Прагрэс-Верцялішкі" Гродзенскага раёна Васілю Рэвяку.*

Як падкрэсліў Прэзідэнт, гэта вышэйшае званне прысвойваецца не часта — з моманту яго заснавання яно прысвоена толькі пяці грамадзянам краіны.

"У залаты летапіс гісторыі сёння ўвайшлі новыя пяць імён", — сказаў Аляксандр Лукашэнка. "Сваёй плённай, шматграннай дзейнасцю, шчырай адданасцю Айчыне і беларускаму народу вы заслужылі гэту вышэйшую ўзнагароду Беларусі", — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, звяртаючыся да ўзнагароджаных.

Міхаіл Высоцкі — выдатны канструктар. З яго імем звязаны ўздым айчыннага аўтамабілебудавання, стварэнне ў Беларусі новых мадэляў грузавога і пасажырскага аўтатранспарту, адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

Паводле яго слоў, дзякуючы мэтанакіраванай паслядоўнай працы Пятра Пракаповіча на пасадзе старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі, за апошнія пяць гадоў удалося амаль у шэсць разоў павялічыць залаты запас краіны. Больш чым у восем разоў узраслі рэсурсы банкаў, у дзевяць разоў павялічыліся крэдыты банкаў рэальнаму сектару эканомікі. Стабілізацыя абменнага курса беларускага рубля, значнае зніжэнне інфляцыйнага працэсу — таксама вялікая заслуга банкаўскай сістэмы Беларусі, падкрэсліў Прэзідэнт.

Прэзідэнт адзначыў, што актыўная грамадская дзейнасць народнага мастака Беларусі Міхаіла Савіцкага добра вядома не толькі ў Беларусі, але і ва ўсім свеце. Яго творы адрозніваюцца маштабнасцю філасофскага асэнсавання жыцця, гуманізмам, высокай грамадзянскасцю. "Яго талент — бясцэнны набытак беларускага народа", — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

З імем Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі звязана вялізная работа па духоўным адраджэнні беларускага народа, захаванні і прымнажэнні культурнай спадчыны нашай Айчыны, умацаванні палітычнай стабільнасці і ўзаемаразумення ў грамадстве.

Ад усяго сэрца ён павіншаваў герояў Беларусі з заслужанай узнагародай, пажадаў новых поспехаў, шчасця і дабрабыту.

**Марыя АГАФОНАВА, БелТА.**

Алімпіяда-2006

## "СЕРАБРО", ВАРТАЕ "ЗОЛАТА"!



**Фрыстайліст Дзмітрый ДАШЧЫНСКІ адзіны з беларускіх спартсменаў заваяваў у Турыне алімпійскую ўзнагароду і тым самым увёў Беларусь у лік каманд медалістаў.**

Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.

Экстрым

## Беларускія альпіністы штурмуюць Эльбрус

*Група беларускіх альпіністаў адправілася штурмаваць вышэйшую кропку Еўропы — патухлы "двухгаловы" вулкан Эльбрус.*

Каманда накіравалася ў Кабардзіна-Балкарыю. На працягу некалькіх дзён група з 10 альпіністаў правяла трэніроўкі з выхадам на каўказскія леднікі і скалы, а ўзыходжанне на Эльбрус (вышыня 5 643 метры) пачалося 8 сакавіка. Калі ўсё складзецца паспяхова, то нашы землякі ўзнімуць на вяршыне Дзяржаўны сцяг Беларусі, сцяг Мінска і сімволіку Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

БелТА.

Запрашэнне

## Турыстычныя маршруты Мінска

Па паведамленні Мінскага гарадскога ўпраўлення статыстыкі, колькасць турыстаў, якія наведалі Мінск летась, у параўнанні з папярэднім годам узрасла на 66 487 чалавек.

Гэта ў большасці грамадзяне Расіі (18,8 працэнта), Вялікабрытаніі (11,7 працэнта), Літвы (11,9 працэнта), Германіі (8,4 працэнта), Латвіі (10 працэнтаў), Італіі (6,9 працэнта).

Чытайце навіны з Беларусі на сайце Belarus21.by/main

"Голас Радзімы" ў 52 краінах

ААЭ, Аргенціна, Арменія, Аўстралія, Аўстрыя, Балгарыя, Беларусь, Бельгія, Бразілія, Венгрыя, В'етнам, Вялікабрытанія, Германія, Данія, Егіпет, ЗША, Ізраіль, Індыя, Іран, Італія, Казахстан, Канада, Карэя (Паўднёвая), Кітай, Куба, Кыргызстан, Латвія, Лівія, Літва, Малдова, Мексіка, Нарвегія, Нідэрланды, ПАР, Польшча, Расія, Румынія, Сербія, Сірыя, Славакія, Славенія, Туркменістан, Турцыя, Узбекістан, Украіна, Уругвай, Францыя, Чэхія, Швейцарыя, Швецыя, Эстонія, Японія

**Падзея: III Усебеларускі народны сход**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

# "ДЗЯРЖАВА ДЛЯ ЧАЛАВЕКА"

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**
навіта ў гэтым заключаецца "гістарычная місія цяперашняга сходу". Удзельнікі сходу, лічыць Аляксандр Лукашэнка, маюць права прымаць такія важныя рашэнні. Галоўным жа дэвізам наступнай пяцігодкі стане — "Дзяржава для чалавека".

Кіраўнік дзяржавы ў чарговы раз пацвердзіў, што ў наступны пяцігадовы перыяд асаблівая ўвага будзе надавацца захаванню і развіццю духоўна-культурнай сферы грамадства, удасканаленню ідэалагічнай работы.

Намечана ажыццявіць вялікія праграмы па рэстаўрацыі і рэканструкцыі гісторыка-культурных помнікаў. У прыватнасці, запланавана аднавіць і абнавіць будынак Вялікага тэатра ў Мінску, палацава-паркавы ансамбль у Нясвіжы, замкавы комплекс у гарадскім пасёлку Мір. Вялікую дапамогу, паводле слоў прэзідэнта, атрымаюць установы культуры, арыентаваныя на развіццё народнай творчасці і промыслаў.

"Наша культура — дастойная частка сучаснага свету", — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Гэта пацвярджае сусветнае прызнанне такіх фестываляў, як "Славянскі базар у Віцебску", "Лістапад" і іншых форумаў, якія ўжо сталі візітнай карткай Беларусі. А дзякуючы такім дасягненням, як перамога Ксюшы Сітнік на "Еўрабачанні", пра беларусаў загаварылі як пра таленавітую ва ўсіх адносінах нацыю.

Беларусь стала родным домам для сотняў сем'яў з былых савецкіх рэспублік.

"Да нас едуць, таму што ведаюць: у Беларусі стабільнасць, спакой і ўпэўненасць у заўтрашнім дні. А галоўнае — тут іх не будуць лічыць чужымі, падзеляцца апошнім кавалкам хлеба", — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Усе традыцыйныя рэлігійныя арганізацыі карыстаюцца падтрымкай дзяржавы.

"Мы ўдзячны нашым вядучым рэлігійным канфесіям, і перш за ўсё праваслаўнай, за дзейнасць па згуртаванні беларускага народа", — адзначыў кіраўнік дзяржавы. У сувязі з гэтым Аляксандр Лукашэнка нагадаў, што за вялікі асабісты ўклад у духоўнае адраджэнне беларускага народа і ўмацаванне міжканфесійнага дыялогу і дружбы паміж народамі Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі ўдастоены высокага звання "Герой Беларусі".

У новым пяцігоддзі перад беларускай дзяржавай і народам стаяць сапраўды маштабныя задачы. Стаўка робіцца на павышэнне ролі высокатэхналагічных прамысловасці, навукі, адукацыі. "Наша мэта — раскрыць патэнцыял кожнага чалавека і на гэтай аснове радыкальна палепшыць якасць жыцця ўсяго народа, — заявіў Прэзідэнт. — І мы абавязкова гэта зробім"!

## Сярод гасцей народнага сходу — 21 прадстаўнік беларускай дыяспары з 12 краін

*Найбольш прадстаўнічая група з Расійскай Федэрацыі: Францішак Каўрыга, старшыня ФНКА "Беларусы", Аляксей Кавалевіч, старшыня РНКА "Беларусы Масквы", Сяргей Бандарэнка, старшыня праўлення РНКА "Беларусы Югры" з Сургута, Аркадзь Крупенька, старшыня РНКА "Беларусы" ў Рэспубліцы Комі, Міхаіл Грыб, член РНКА "Калінінградскае зямляцтва беларусаў", Уладзімір Шугля, кіраўнік НКТ "Беларусь" у Цюмені, Іван Панасюк, старшыня праўлення БКАЦ у імя Святой Ефрасінні Полацкай у Новасібірску.*

*Прыехалі таксама Лілія Белазёрава, старшыня БКЦ "Світанак" (Узбекістан); Жанна Нікітчук, член Савета абшчыны "Беларусь" (Арменія); Анатоль Кадачкін, ганаровы консул Рэспублікі Беларусь у Казахстане, дырэктар "Інжынерынгбудпраект-сервіс" у Астане; Аляксандр Шут, кіраўнік аб'яднання беларусаў "Світанак" (Кыргызстан); Лявон Мурашка, кіраўнік Згуртавання беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы; Валянціна Піскунова, старшыня аб'яднання "Саюз беларусаў Латвіі"; Ніна Савінава, кіраўнік Асацыяцыі беларусаў Эстоніі; Уладзімір Вайцзховіч, член Савета беларускіх абшчын Малдовы.*

*Украіну прадстаўлялі: Ірына Аржахоўская, старшыня Усеукраінскага саюза беларусаў; Сяргей Кулікоў, староста абшчыны Львоўскай вобласці; Валерый Варона, дырэктар Інстытута сацыялогіі НАН Украіны.*

*У сходзе прынялі таксама ўдзел: Юрый Босна, намеснік старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Польшчы; Святлана Гебелева (ЗША); Міхаіл Альшанскі, старшыня Усеізраільскага аб'яднання выхадцаў з Беларусі.*

*На адным з пасяджэнняў выступілі два прадстаўнікі беларускай дыяспары — Валянціна Піскунова і Іван Панасюк. Многія падалі лісты з пытаннямі і прапановамі ў прэзідыум сходу. Асэнсаваўшы асноўны лозунг наступнай пяцігодкі, якая ўжо пачалася ў краіне, — "Дзяржава для чалавека" — беларусы замежжа маюць намер актыўна ўключыцца ў выкананне намечаных на Радзіме планаў і просяць кіраўніцтва краіны выкарыстоўваць магутны патэнцыял трох мільёнаў землякоў за рубяжом.*

***У складзе ўдзельнікаў III Усебеларускага народнага сходу быў 21 прадстаўнік беларускай дыяспары з 12 краін. Двое з іх — Іван ПАНАСЮК і Валянціна ПІСКУНОВА — атрымалі магчымасць выступіць з трыбуны сходу.***

***Валянціна ПІСКУНОВА**, старшыня Саюза грамадскіх аб'яднанняў беларусаў Латвіі, кіраўнік Асацыяцыі прадпрымальнікаў-беларусаў Латвіі "Беларускі шлях":*

## "Трэба выкарыстоўваць патэнцыял замежжа"

— Уражанні ад гэтай значнай падзеі ў мяне вельмі моцныя: я ўбачыла, куды ідзе Беларусь і як яна развіваецца. Вельмі рада за сваю Радзіму, за наш народ, за тое, што кіраўніцтва дзяржавы выбрала правільны накірунак свайго развіцця. Спадзяюся, што асноўнае пытанне, якое я паднялa ў сваім выступленні на III Усебеларускім народным сходзе — аб выкарыстанні беларускага патэнцыялу за мяжой — трапіць у план развіцця краіны. Ад імя беларусаў замежжа я прасіла аб вяртанні льгот для нашых дзяцей пры паступленні ў беларускія навучальныя ўстановы — гэта дапаможа ім захаваць сваю ідэнтыфікацыю, лепш ведаць краіну, адкуль родам іх бацькі і дзеды, а Беларусі — мець спецыялістаў, якія будуць спрыяць наладжванню эканамічных і культурных сувязей з краінамі іх пражывання.

Вельмі хочам, каб усе беларусы замежжа былі патрэбны сваёй Радзіме. У нас працэс згуртавання беларусаў краін Балтыі працягваецца, ён вельмі складаны, патрабуе шмат сіл, энергіі, сродкаў. Усе мы любім Беларусь і будзем спрыяць сваёй Радзіме ва ўсім. Вельмі хацелі б мець у Латвіі свой культурна-інфармацыйны цэнтр. Іншыя нацыянальныя меншасці ў Латвіі даўно ўжо маюць такія цэнтры, пабудаваныя з дапамогай сваіх краін. Ля гэтага цэнтра маглі б гуртавацца і беларусы-прадпрымальнікі Латвіі, якія далучацца да будаўніцтва свайго агульнага беларускага дома. Яны шмат робяць для сваёй роднай Беларусі, а маглі б зрабіць яшчэ больш. Гэты народны сход і нас скіроўвае на тое, што мы павінны працаваць больш і лепш для сваёй Бацькаўшчыны, садзейнічаць яшчэ большаму развіццю эканамічных і культурных стасункаў паміж Латвіяй і Беларуссю.



НА ЗДЫМКУ: прадстаўнікі беларускай дыяспары на III Усебеларускім народным сходзе. Злева направа ўнізе: Уладзімір ВАЙЦЭХОВІЧ (Малдова), Жанна НІКІТЧУК (Арменія), Ніна САВІНАВА (Эстонія), Святлана ГЕБЕЛЕВА (ЗША), Ірына АРЖАХОЎСКАЯ (Украіна). Злева направа ўверсе: Сяргей КУЛІКОЎ (Львоў, Украіна), Лявон МУРАШКА (Літва), Уладзімір ШУГЛЯ (Цюмень, Расія), Аляксей КАВАЛЕВІЧ (Масква, Расія), Аркадзь КРУПЕНЬКА (Рэспубліка Комі, Расія), Аляксандр ШУТ (Кыргызстан). **Фота Сяргея ДЗЕНІСЕНКІ.**

**З выступлення на III Усебеларускім народным сходзе**

***Іван ПАНАСЮК**, старшыня праўлення Беларускага культурна-асветнага цэнтра ў імя святой Ефрасінні Полацкай у Новасібірску, сустаршыня праўлення Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".*

## "Не думай пра тое, што Радзіма зрабіла для цябе, думай пра тое, што ты зрабіў для Радзімы"

*— Магу сказаць, што эфект ад праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі не абмежаваўся тэрыторыяй самой Беларусі. Далёка за Уралам мы не толькі адчулі яе ўздзеянне на наша жыццё, але і прынялі самы дзейсны ўдзел у рэалізацыі пастаўленых перад усімі беларусамі задач. Традыцыйнымі сталі на сібірскай зямлі фестывалі і святы беларускай культуры.*

*Упершыню за ўсю гісторыю Сібіры і Расіі ўзведзены храм у гонар беларускай святой Ефрасінні Полацкай (пабудаваны ў Новасібірску з благаславення Уладыкі Філарэта, сіламі і сродкамі беларускай дыяспары). Трэба зазначыць: намі зроблена нямала для таго, каб беларускі фактар стаў прыкметнай з'явай у духоўным, грамадскім, эканамічным жыцці Сібіры.*

*Ёсць у нашай працы і палітычны аспект: усё зробленае садзейнічае павышэнню іміджу Беларусі, фарміраванню станоўчага яе вобраза ў буйнейшым рэгіёне Расіі. Але сёння мы разумеем, што гэтага ўжо недастаткова. Тыя амбіцыйныя, але цалкам рэальныя планы, якія былі агучаны на III Усебеларускім народным сходзе, ставяць перад намі новыя задачы, і мы ні ў якім разе не застанемся ўбаку ад іх выканання.*

*Самае цікавае заключаецца ў тым, што да гэтага часу ніхто ўсур'ёз не аналізаваў ёмкасць патэнцыяла беларускай дыяспары. Многія прывыклі думаць, што беларусы замежжа не маюць сёння дастатковых фінансава-эканамічных рэсурсаў для сур'ёзных самастойных праектаў, не маюць палітычнай вагі, слаба арганізаваны для таго, каб лабіраваць інтарэсы сваёй метраполіі ў краінах пражывання. Часткова гэта так, у нас няма такіх магчымасцей, як у Кітая, Ізраіля, у Італіі або нават у Арменіі для прыцягнення дыяспары ў эканоміку і палітыку. Але ж беларуская дыяспара ўжо не тая, што была 5-7, а тым больш 10 гадоў таму. Дзякуючы настойлівай, паслядоўнай, а галоўнае самастойнай і дальнабачнай палітыцы беларускай дзяржавы, якасна змянілася самасвядомасць беларусаў замежжа, іх адносіны да сваёй Радзімы. Сёння многія з нас перараслі стадыю пасіўнага гонару за поспехі нашай Радзімы, мы гатовы стаць паўнавартаснымі выканаўцамі задач, якія стаяць перад усімі беларусамі, незалежна ад месца іх пражывання. Рузвельт у часы Вялікай амерыканскай дэпрэсіі гаварыў: "Не думай пра тое, што Амерыка зрабіла для цябе, думай пра тое, што ты зрабіў для Амерыкі". Перафразіраваўшы гэта выказванне, я сёння лічу лейтматывам дзейнасці беларусаў Сібіры лозунг: "Не думай пра тое, што Радзіма зрабіла для цябе, думай пра тое, што ты зрабіў для Радзімы".*

*Беларуская нацыя, як неаднаразова адзначаў Прэзідэнт Беларусі, таленавітая і працавітая. Менавіта гэтыя якасці дазволілі нашым суайчыннікам дасягнуць прыкметных поспехаў за мяжой. Большасць з нас гатова паставіць свае дасягненні на службу Радзіме, але не заўсёды ведае, як гэта зрабіць. Нам патрэбна сістэмная, комплексная, скаардынаваная работа ўсіх дзяржаўных органаў з мэтай аб'ектыўнай ацэнкі патэнцыялу беларускай дыяспары і вызначэння прыярытэтаў для прыцягнення і выкарыстання на карысць Беларусі. Прапаную прадугледзець у праекце "Закона Рэспублікі Беларусь аб суайчынніках, якія пражываюць за рубяжом", якога мы вельмі чакаем, абавязкі рэспубліканскіх і асабліва мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання па прыцягненні гэтага патэнцыялу. І раённыя, і сельскія саветы павінны сістэмна працаваць з усімі сваімі прыкметнымі землякамі, што пражываюць за рубяжом. Лічу магчымым і неабходным ужо сёння абагуліць і распаўсюдзіць вопыт старшыні Дывінскага сельскага савета Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, які змог аб'яднаць прадстаўнікоў Хабараўска, Новасібірска, Масквы, Мінска ў імя адной святой мэты — "Родны кут". Усе землякі працуюць на гэта роднае сяло ў Беларусі. Суайчыннікі за мяжой ёсць у жыхароў кожнай вёскі, кожнага пасёлка, кожнага горада — іх трэба знайсці, расказаць ім пра іх родны кут, запрасіць у госці, паказаць, прабудзіць памяць. І гэта дасць вялікі паток інвестыцый у Малую Радзіму. Яны будуць ад душы, ад сэрца, ад удзячных сыноў Айчыны.*

*Трэба зрабіць усё, каб хутчэй з'явіўся "Закон аб суайчынніках...". Гэта дасць каласальны эканамічны, палітычны, сацыяльны, духоўны, гуманітарны эфект. Тры мільёны этнічных беларусаў замежжа абвострана і глыбока адчуваюць любоў да сваёй Радзімы. "Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць" — гэта мы разумеем і адчуваем усім сэрцам.*

**Падборку падрыхтавала Рэгіна ГАМЗОВІЧ.**

**Event-2006**

***Observers:***

## "Election campaign runs in Belarus within framework of current legislation"

*The conclusions on the course of the presidential election campaign in Belarus presented in the interim reports of the CIS and OSCE/ODIHR observation missions coincide in general, leader of the CIS observation mission Asan Kozhakov said at a press conference in the CIS headquarter in Minsk.*

*According to him, on the eve, March 2, the leadership of the CIS mission met with the leadership of the OSCE/ODIHR delegation. "The OSCE mission has developed very good relations with the government agencies of Belarus, central election commission, procuracy bodies and courts. They are satisfied with the working conditions, too", Asan Kozhakov has informed.*

*The election campaign is running in Belarus without serious violations and within the framework of the current legislation, chief of the headquarters of the CIS mission of observers stated.*

*In line with the legislation the central election commission determined special areas to place election leaflets and to hold meetings between presidential contenders and voters. All candidates have been given an opportunity to publish their programs in mass media outlets and to appear on radio and TV. "The headquarters of the CIS mission is monitoring news programs on the TV channels, studies election programs of candidates, their interviews and statements. We have not detected any serious violations", Asan Kozhakov noted.*

*The head of the mission also said that the CIS observers continued to oversee the performance of district election commissions.*

*According to the observers, all commissions have been provided with communication facilities and office equipment, election legal acts and necessary materials. Chairmen and secretaries of the commissions regularly hold meetings to discuss their work. Addresses and phones of members of them have been published in regional newspapers. At present the commissions are finishing work on drawing up lists of voters.*

*Asan Kozhakov has noted that the election campaign is the most active and tense phase of the election fight. In this conjunction on behalf of the CIS observers he appealed to the candidates for the presidency to hold a fair and civilized campaign "for themselves but not against other candidates".*

*It is easier to criticize. And to win over the candidates should popularize their programs. A calm situation, lack of nervousness and provocative statements is half the battle", Asan Kozhakov underlined.*

*He stressed that the two missions note the accessibility, openness and transparency of the work of the elections commissions of all levels and a calm public-political situation in Belarus.*

# Third All-Belarus People's Congress

***The Third All-Belarus People's Congress held in Minsk. During the two-day meeting its participants approved a draft program on socio-economic development of the republic by 2006-2010 and adopted a corresponding resolution. The document expresses support to the state priorities determined the by leadership of the country. Among them — all-round harmonic human development based on increased money incomes, an innovation way of the economy development, energy and resource saving, boosting export potential by enhancing the competitive power of national products, development of the agro-industrial complex and social village revival, housing construction, economic development of settlements and towns.***

***Participants of the congress stated that the program on socio-economic development of the Republic of Belarus for 2001-2005 had been completely implemented.***




**Head of state Alexander Lukashenko took part in the congress and answered all questions during the congress.**

### SOVEREIGN AND ECONOMICALLY INDEPENDENT STATE

Today sovereignty is a real factor of world policy. A factor which cannot be ignored, president of Belarus Alexander Lukashenko declared during his speech at the 3rd All-Belarus People's Congress.

We managed to make our country both sovereign and economically independent," the head of state stated.

"Belarus has preserved and enriched the public property. Our economy has been developing not due to somebody's charity but due to our own work. Today we live in a stable, safe and civilized country. We have sound economy, well-developed science and culture, one of the world's best education systems," the president said.

"We have learnt to solve complicated problems, make large projects a reality, work fruitfully," Alexander Lukashenko emphasized.

### STABILITY, DYNAMIC DEVELOPMENT BASED ON STRONG SOCIAL POLICY

A strong social policy is the basis of stability and national dynamic development, Belarusian president Alexander Lukashenko told the All-Belarus People's Congress.

The state will pay top priority attention to social issues in the next five years, said the Belarusian leader. In line with the plan in 5 years the average salaries and pensions should double. Inflation taken into account, the real income of individuals will rise by 50 per cent.

Salary is not the only important thing. All the complex of social welfare is important.

Today there are 44 social standards in Belarus. The standards define kinds and quality of the most important social services in education, health care, physical and spiritual culture, housing and utilities, trade, transport, communication.

"The standards should be kept to everywhere. It is the thing the state guarantees for our people", said Alexander Lukashenko. "What other country would undertake such a responsibility? There are none! But our system will function! There cannot be any underperformance. Officials will constantly be held answerable for that".

### BELARUS PURSUES INDEPENDENT FOREIGN POLICY

On the international arena Belarus today is a full-fledged and active member of the international community. More so, it is one of the few states who pursue a truly independent foreign policy, president of Belarus Alexander Lukashenko stated in the course of his speech.

"Belarus' foreign political policy is formulated independently providing for the national interests rather than in other powerful capitals", the head of state said.

The foreign policy of Belarus is peaceful. "This country advocates security in the region and in the world. We do everything possible to make the relations between the main military-political organizations in Europe — CSTO and NATO — the relations of partnership and cooperation. But of equal partnership rather than that of the master and servant", Alexander Lukashenko noted.

Belarus jointly with the CIS partners has initiated the long matured process of the OSCE reforming. The potential of the Non-Align Movement has been used more efficiently to advance Belarusian initiatives. Belarus has strengthened its influence in the integration associations among former Soviet Union nations — the CIS, EurAsEC, CSTO."At the same time Russia remains the main strategic partner and ally of Belarus, the president stressed. Today we can say with confidence that the course for integration which we chose 10 years ago was the solely right decision. The ally relations with Russia have promoted national security and stable economic development." Alexander Lukashenko also noted that the same can be applied to the cooperation with the brotherly Ukraine.

### VILLAGE REVIVAL TO ACCOMPLISH BELARUS' MOST IMPORTANT GOAL

Accomplishment of the state village revival programme will allow reaching a most important goal in the country's history. "Only village can name us great creators on the history pages", Belarusian president Alexander Lukashenko told the 3rd All-Belarus People's Congress on March 3.

"The village revival is not simple words. In my time I had to convince everybody, to change things, to inspire and show the ***Br 50 trillion programme*** can be accomplished", said the president.

In his words, "Today under the heaviest economic pressure and competition it turns out we can solve the problem. There are enough means for that".

The fact that "we did not sell our country, have income growth sources and are not corrupted" is a positive factor in accomplishing the village revival programme.

"I don't know why we did not rush to privatise everything when we were advised to. At that time we could not understand what might happen to the economy. But we, judicious Belarusians, did not break anything, calmly made a step after step, thinking what might happen. It saved our country. Now we know what to do", noted Alexander Lukashenko.

### INNOVATIONS TO BE KEY AREA OF BELARUS' INDUSTRIAL POLICY

The main feature of the production sphere development in Belarus in the next 5 years will be innovation technologies. The statement to this effect was made by Alexander Lukashenko at the 3rd All-Belarus People's Congress in the Palace of the Republic.

"Today we have good examples of innovations projects, like the Belarusian satellite, a new building of the National Library, comprehensive computer system for designing trucks, competitive manufactures in chemical and petrochemical branches, management systems of the armed forces," the president noted.

During the last 5 years Belarus launched integration of science, education and production. Measures on improvement of the management system of scientific sphere were taken. "The results are already feasible. Today one ruble invested in science brings back 11", the president said.

This year the state is expected to allocate Br310 billion in the sphere, almost one third more than last year. By 2010 allocations for science are expected to double.

### BELARUS SHOULD INCREASE EXPORTS OF HIGH-TECH PRODUCTS AND TECHNOLOGIES

The main foreign trade goal for the next five-year term is to reduce feedstock imports and to increase exports of high-tech products and technologies, president of Belarus Alexander Lukashenko stated at the Third All-Belarus People's Congress.

The head of state deems it necessary to get rid of unfair middlemen in export of Belarusian products and to develop own commodity distribution network. As an example Alexander Lukashenko cited a track record of Belarusian Potassium Company. "Belarus should pursue aggressive foreign economic policy. This is a source of our wealth", the Belarusian leader underlined.

The president also drew attention to the necessity to exploit the transit potential of the republic to the full.

### BELARUS TO ENTER GLOBAL TOURISM MARKET

In the next five years Belarus should enter the global tourism market. Tourism and recreation should become enticing and trendy.

The head of state named the National Parks Belovezhskaya Puscha, Braslav Lakes, Narochanskiy and Pripyatskiy, Berezina Biosphere Reserve as well as towns of Nesvizh, Mir, Zaslavl, Turov and the Augustowski Channel a golden fund of the national tourism.

According to the president, Belarus should make a broader use of its geographic position and attract foreign tourists.

The president also noted the necessity to preserve unique architecture of small towns. "All-round development of the Belarusian towns and villages, preservation of their diversity is one of the key targets of the state socio-economic policy," the head of state added.

Special attention is expected to be paid to preservation of historical and cultural heritage of Belarus in the upcoming five years. There are large-scale projects to restore and reconstruct historical and cultural monuments, Alexander Lukashenko said at the Third All-Belarus People's Congress.

In particular, it is planned to refurbish the Bolshoi Opera and Ballet Theater in Minsk, the palace and park ensemble in Nesvizh, the castle compound in the village of Mir. According to the president, cultural establishments which seek to develop national crafts will enjoy all-round support from the state.

"Our culture is a worthy part of the modern world", Alexander Lukashenko stressed. This is proved by the international recognition of such festivals as Slavonic Bazaar in Vitebsk, Listapad and other forums which have grown to become associated with Belarus. Due to such achievements as the victory of Oksana Sitnk at Eurovision, the Belarusians have become known as a talented nation.

**Старонку падрыхтаваў Барыс ЖУКАЎ.**




# Усё пра выбары

***ХТО МАЕ ПРАВА ПРЫМАЦЬ УДЗЕЛ У ГАЛАСАВАННІ?***

Спісы грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, па ўчастках для галасавання, створаных за межамі Рэспублікі Беларусь, складаюцца ўчастковымі камісіямі на аснове даных, прадстаўленых кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) Рэспублікі Беларусь, якія дзейнічаюць на тэрыторыі адпаведных замежных дзяржаў.

У спіс грамадзян выбаршчыкаў Рэспублікі Беларусь, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, на ўчастку для галасавання, створанага за межамі Рэспублікі Беларусь, уключаюцца асобы, пражыванне якіх на тэрыторыі замежнай дзяржавы пацверджана на момант складання спіса, а таксама грамадзяне, што знаходзяцца ў доўгатэрміновай замежнай камандзіроўцы. Пры звароце ва ўчастковую камісію ў гэты спіс ўключаюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія не ўключаны ў спіс па нейкай прычыне, але пацвердзілі сваё знаходжанне на тэрыторыі замежнай дзяржавы ў перыяд выбараў, а таксама грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія прыбылі ў замежную дзяржаву ў сувязі з прыватнай, службовай, дзелавой ці турыстычнай паездкай. Уключэнне ў спіс, у тым ліку ў дзень галасавання, робіцца на падставе дакументаў, якія пацвярджаюць асобу і грамадзянства Рэспублікі Беларусь і пастаяннае ці часовае знаходжанне на тэрыторыі замежнай дзяржавы.

Спісы грамадзян Рэспублікі Беларусь прадстаўляюцца для агульнага азнаямлення ў памяшканні ўчастковай камісіі за пятнаццаць дзён да выбараў. Пасля прадстаўлення спісаў для агульнага азнаямлення яны таксама могуць удакладняцца.

***ЯК ФАРМІРУЮЦЦА ВЫБАРЧЫЯ ЎЧАСТКІ?***

Участкі для галасавання за межамі Рэспублікі Беларусь утвараюцца кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) Рэспублікі Беларусь, якія дзейнічаюць на тэрыторыі адпаведных замежных дзяржаў у вызначаныя заканадаўствам тэрміны.

Участкі для галасавання ўтвараюцца пры наяўнасці не менш 20 і не больш 3 000 грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў), якія ўтварылі ўчасткі для галасавання, не пазней чым у дзесяцідзённы тэрмін апавяшчаюць выбаршчыкаў аб месцы знаходжання ўчастковай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і памяшкання для галасавання.

Участковыя камісіі, створаныя за межамі Рэспублікі Беларусь, карыстаюцца пячацямі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) Рэспублікі Беларусь.

***ХТО ПРАЦУЕ ВА ЎЧАСТКОВЫХ КАМІСІЯХ?***

Участковыя камісіі за межамі Рэспублікі Беларусь утвараюцца кіраўнікамі дыпламатычных прадстаўніцтваў (консульскіх устаноў) Рэспублікі Беларусь, якія дзейнічаюць на тэрыторыі адпаведных замежных дзяржаў, у складзе 5-19 членаў.

Прадстаўнікі ў склад участковых камісій вылучаюцца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 35 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Пры адсутнасці неабходнай колькасці выбаршчыкаў для вылучэння прадстаўнікоў у склад участковай камісіі шляхам падачы заявы, вылучэнне можа праводзіцца, калі заява падпісана не меней як трыма выбаршчыкамі.

***ДЗЕ І ЯК МОЖНА АТРЫМАЦЬ ІНФАРМАЦЫЮ ПРА КАНДЫДАТАЎ?***

У кожнай участковай камісіі павінны быць інфармацыйныя матэрыялы пра кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у адпаведнай форме прадстаўленыя Цэнтральнай выбарчай камісіяй.

***ЦІ МОЖНА ГАЛАСАВАЦЬ ДАТЭРМІНОВА?***

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія не маюць магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца ў месцы размяшчэння ўчастка для галасавання, створанага за межамі Рэспублікі Беларусь, маюць права не раней чым за пяць дзён да выбараў ва ўмовах, якія выключаюць кантроль за іх волевыяўленнем, запоўніць у памяшканні ўчастковай камісіі бюлетэнь для галасавання і апусціць яго ў апячатаную асобную скрыню для галасавання. Афіцыйнага пацвярджэння прычын немагчымасці выбаршчыка прыйсці ў памяшканне для галасавання ў дзень выбараў не патрабуецца.

Участковая камісія, створаная за межамі Рэспублікі Беларусь, забяспечвае таксама магчымасць удзельнічаць у галасаванні грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія пражываюць у населеным пункце па месцы знаходжання ўчастка для галасавання, якія па стане здароўя ці па іншых слушных прычынах не змогуць прыйсці ў дзень выбараў у памяшканне для галасавання. Участковая камісія мае права арганізаваць галасаванне выбаршчыкаў ва ўказаных выпадках па месцы іх знаходжання і ў іншых населеных пунктах.

***ДЗЕ ПАДЛІЧВАЮЦЬ БЮЛЕТЭНІ?***

Падлік галасоў на ўчастках для галасавання, створаных за межамі Рэспублікі Беларусь, праводзіцца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 55 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Звесткі аб выніках галасавання, указаныя ў пратаколах участковых камісій, накіроўваюцца старшынямі камісій па электроннай пошце з наступнай перадачай пратаколаў па сувязі ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь не пазней 14 гадзін 20 сакавіка 2006 года, а Міністэрствам замежных спраў Рэспублікі Беларусь — у Цэнтральную камісію і тэрытарыяльную камісію па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь той адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі, да якой прыпісаны ўчасткі для галасавання, не пазней 15 гадзін 20 сакавіка 2006 года.

***ЁСЦЬ ЯШЧЭ ПЫТАННЕ?***

Уся падрабязная інфармацыя на афіцыйным сайце Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па правядзенні выбараў і рэферэндумаў www.rec.gov.by.

**Падрыхтаваў Барыс ЖУКАЎ.**

**Навінка**

# У Гомель з камфортам

У рэйс па маршруце Гомель — Мінск адправіўся хуткі дызель-цягнік. Яго пасажырамі сталі і працаўнікі Рыжскага вагонабудаўнічага завода, які вырабіў гэты незвычайны для Беларускай чыгункі цягнік. У новым саставе маецца тры класы вагонаў рознай камфортнасці, кафэ-бар, ВК-тэлевізары і шмат розных дробязей, якія павышаюць камфортнасць.




НА ЗДЫМКАХ: цягнік адпраўляецца па раскладу; бармен Дзмітрый ГРАМЫКА і повар Дзмітрый ЛАГВІНЕНКА гатовы сустракаць кліентаў.

**Абітурыент-2006**

# Уведзены новыя правілы прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы

***Сёлета ўпершыню правілы прыёму ў вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы зацвердзіў сваім подпісам Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Такі ўзровень прыняцця рашэння паказвае сур'ёзнасць падыходу да дакумента. Яшчэ, як сцвярджаюць чыноўнікі Міністэрства адукацыі, гэта азначае, што правілы прыняты не на адзін год. Такім чынам, у бліжэйшыя гады нашым дзецям прыйдзецца паступаць у навучальныя ўстановы менавіта па гэтых правілах, а яны маюць істотныя змяненні і тычацца навучальных устаноў усіх формаў уласнасці. Спынімся на правілах паступлення ў ВНУ.***

Міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў падкрэсліў, што мэта прыняцця новых правіл — зрабіць працэс паступлення ў ВНУ справядлівым і празрыстым. Асноўная задача нававвядзенняў — працаваць на якасць адукацыі. Правілы, сказаў міністр, праходзілі ўзгадненне ў 33 міністэрствах і ведамствах.

Першае, на чым хацелася б спыніцца, тычыцца дзяцей беларусаў, якія жывуць за мяжой і не з'яўляюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. З гэтага года ніякіх квот на паступленне ў ВНУ за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту для прадстаўнікоў беларускай дыяспары не будзе. Гэта азначае, што яны будуць праходзіць па агульным конкурсе. І тое, толькі ў тым выпадку, калі, як запісана ў правілах, іх палічаць "асобамі беларускай нацыянальнасці". Нацыянальнасць пацвярджаць прыйдзецца ў прыёмнай камісіі той навучальнай установы, куды абітурыент збіраецца паступаць. Што з'яўляецца доказам беларускіх каранёў? Гэта дакумент, які сведчыць, што сам абітурыент ці яго бацькі нарадзіліся ў Беларусі. Калі ў пашпарце няма адзнакі пра нацыянальную прыналежнасць ці месца нараджэння, неабходна прадставіць пасведчанне аб нараджэнні (сваё ці бацькоў), дзе будзе такая адзнака. Даведка з беларускай арганізацыі за мяжой дзейнічаць у якасці такога пацвярджэння не будзе.

Сваё беларускае паходжанне не трэба даказваць грамадзянам Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Рэспублікі Таджыкістан. Грамадзяне гэтых краін маюць аднолькавыя з нашымі правы на бясплатную вучобу ў ВНУ на падставе міжнародных пагадненняў.

Усе астатнія, хто мае беларускае паходжанне, але не змогуць гэтага даказаць, будуць паступаць у нашы ВНУ як іншаземныя грамадзяне. Ім трэба мець законныя падставы знаходжання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, неабходны ўзровень папярэдняй адукацыі, а пасля заключыць пры прыбыцці пагадненне з ВНУ аб адукацыі.

Іншаземныя грамадзяне будуць таксама прымацца на навучанне пры наяўнасці медыцынскага заключэння аб стане здароўя, якое пацвярджае магчымасць навучання ў кліматычных умовах Беларусі і ў адпаведных ВНУ, выдадзенага афіцыйным органам аховы здароўя краіны, з якой прыбыў кандыдат. Замежныя грамадзяне, якія прыбываюць на вучобу, будуць залічвацца ў навучальныя ўстановы пасля абавязковага медыцынскага абследавання ў тэрытарыяльных арганізацыях аховы здароўя, вызначаных ВНУ.

Юрый Міксюк, начальнік упраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, пракаменціраваў змены ў правах дзяцей беларускай дыяспары так: "Значнай ільготай з'яўляецца права прадстаўнікоў беларускай дыяспары паступаць у беларускія ВНУ на аднолькавых умовах з грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Пазбаўленне магчымасці трапіць у ВНУ без конкурсу — гэта захад у бок справядлівасці і роўных умоў для абітурыентаў. Безумоўна, заўсёды непрыемна страчваць нейкія прывілеі. Тым не менш рашэнне прынята. Што ж тычыцца неадпаведнасці праграм, па якіх навучаюцца дзеці ў Беларусі і за мяжой, магу сказаць адно — у нашы ВНУ трэба рыхтавацца па беларускіх праграмах".

Абітурыенты здаюць тры ўступныя іспыты, два з іх — у форме цэнтралізаванага тэсціравання, трэці — у форме, устаноўленай прыёмнай камісіяй ВНУ. Адно з тэсціраванняў — абавязковае — руская ці беларуская мова, па выбары. Паводле дакумента, уступныя выпрабаванні ў Акадэмію МУС, Ваенную акадэмію, Каманднa-інжынерны інстытут, Гомельскі інжынерны інстытут будуць праходзіць з 18 па 21 ліпеня; у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў, Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў — з 12 па 22 ліпеня. У іншыя дзяржаўныя і прыватныя ВНУ — з 31 ліпеня па 4 жніўня. Цэнтралізаванае тэсціраванне праводзіцца з 12 чэрвеня па 15 ліпеня. Для ўдзелу ў ім трэба паспець зарэгістравацца ў адной з навучальных устаноў, вызначаных для яго правядзення (амаль усе вядучыя беларускія ВНУ). Гэта магчыма зрабіць па пошце, даслаўшы заяву і копію дакумента, што засведчвае асобу.

Паводле новых правіл пры паступленні ў ВНУ будзе ўлічвацца сярэдні бал атэстата. Пры гэтым сярэдні бал дакументаў аб адукацыі па пяцібальнай шкале перакладаецца ў дзесяцібальную шкалу па перакладной табліцы сярэдняга бала дакументаў.

З гэтага года завочна вышэйшую адукацыю за кошт дзяржбюджэту можна атрымаць толькі ў выпадку, калі абітурыент працуе па спецыяльнасці, звязанай з профілем выбранай спецыяльнасці ці толькі што скончыў спецыяльную сярэднюю навучальную ўстанову. Астатнія — на платнай аснове.

**Алена СПАСЮК.**

**Мяжа**

# Для беларускіх і расійскіх грамадзян — "зялёны калідор"

***На парадку дня — арганізацыя асобных калідораў у пунктах пропуску праз мяжу Саюзнай дзяржавы для беларускіх і расійскіх грамадзян, як гэта зроблена ў Еўропе для грамадзян краін Еўрасаюза.***

***"Зялёным калідорам" змогуць скарыстацца людзі, якія займаюцца эканамічнай дзейнасцю і турызмам, а апрабаванне гэта сістэма пройдзе ў авіяцыйных пунктах пропуску. Гэта пытанне абмяркоўвалася ў Гродне на пасяджэнні сумеснай калегіі пагранічных ведамстваў Расіі і Беларусі.***

**Леанід ГУЛЯКА, старшыня Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь:**



# "ВОПЫТ ЛІДЧАН КАРЫСНЫ ДЛЯ ЎСІХ РЭГІЁНАЎ БЕЛАРУСІ"

*У канцы лютага ў Лідзе прайшла выязная калегія Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей. Гэта было першае сумеснае пасяджэнне Камітэта і Лідскага райвыканкама. Вопыт аказаўся карысным, і ў далейшым сумесныя пасяджэнні кіраўнікоў Камітэта і органаў мясцовай улады будуць праходзіць і ў іншых раёнах Беларусі. Такая форма супрацоўніцтва, па меркаванні старшыні Камітэта Леаніда ГУЛЯКІ, найбольш эфектыўная, бо дазваляе вырашаць пытанні рэлігійных і міжнацыянальных узаемадзеянняў на месцах, з улікам абставін і спецыфікі пэўных рэгіёнаў.*

У рабоце сумеснага пасяджэння прымалі ўдзел старшыня Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка, кіраўнік аддзела па справах нацыянальнасцей Камітэта Юрый Уральскі, кіраўнік аддзела па справах рэлігій Камітэта Аляксандр Калінаў, члены Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Людміла Арцёменка і Аляксандр Юшкевіч, намеснік старшыні Гродзенскага аблвыканкама Марыя Бірукова, намеснік старшыні Лідскага райвыканкама Антон Глаўніцкі, прадстаўнікі райвыканкама, кіраўнікі абласных Саветаў па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Асноўным пытаннем, якое разглядалася на пасяджэнні, было пытанне "Аб рабоце Лідскага райвыканкама ў сферы этнаканфесійных адносін і мерах яе ўдасканалення".

Лідскі раён для выязной калегіі быў выбраны невыпадкова: тут, у адпаведнасці з перапісам 1999 года, пражываюць прадстаўнікі больш чым 50 нацыянальнасцей, а канфесійную структуру прадстаўляюць сем рэлігійных напрамкаў. Па словах старшыні Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леаніда ГУЛЯКІ, у вобласці назапашаны вялікі вопыт работы дзяржаўных органаў з насельніцтвам з улікам іх нацыянальнай і канфесійнай прыналежнасці, таму вынікі пасяджэння Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей і Лідскага раённага выканаўчага камітэта будуць карысны для ўсіх рэгіёнаў Беларусі.

Пільная ўвага Камітэта як рэспубліканскага органа дзяржаўнага кіравання, на які ўскладзены кантроль за выкананнем нацыянальнага заканадаўства па забеспячэнні правоў грамадзян на свабоду сумлення і веравызнання, а таксама правоў асоб, якія адносяцца да нацыянальных супольнасцей, была накіравана не столькі на прадстаўленую намеснікам старшыні райвыканкама Антонам ГЛАЎНІЦКІМ агульную сітуацыю ў раёне, звязаную са становішчам нацыянальных і рэлігійных арганізацый, колькі на ролю дзяржаўных органаў у рабоце з імі.

Нацыянальны склад жыхароў раёна разнастайны: 46,2 працэнта складаюць беларусы, 39,5 — палякі, 11,3 — рускія, 2,1 — украінцы, 0,2 — літоўцы, астатнія — немцы, армяне, яўрэі, татары, азербайджанцы і іншыя. На Лідскі раённы камітэт ускладзена адказная задача — захоўваць міжканфесійную згоду, давер, падтрымліваць розныя формы дыялогу, садзейнічаць захаванню і прымнажэнню культуры нацыянальных супольнасцей. Штогод на пасяджэннях выканаўчага камітэта разглядаюцца пытанні аб этнаканфесійнай сітуацыі і рабоце па забеспячэнні выканання заканадаўства аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях, садзейнічанні нацыянальна-культурнаму развіццю нацыянальных супольнасцей у раёне.

Важным фактам з'яўляецца тое, што пры ўдзеле і падтрымцы органаў мясцовай улады ў рамках заканадаўства арганізоўваюцца і праводзяцца розныя мерапрыемствы. Так, у 2005 годзе калектывы мастацкай самадзейнасці нацыянальна-культурных аб'яднанняў Лідчыны прымалі актыўны ўдзел у правядзенні выставы "Прамысловы комплекс Лідскага рэгіёна", Дні Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, "Дажынках", міжнародным фестывалі сярэднявечнай культуры. Члены райвыканкама таксама актыўна ўдзельнічаюць у мерапрыемствах, якія праводзяць нацыянальныя аб'яднанні, сустракаюцца з іх кіраўнікамі, аказваюць аб'яднанням неабходную дапамогу. У бібліятэках раёна, напрыклад, створаны літаратурныя фонды на мовах нацыянальных меншасцей, набываюцца кнігі, выпісваюцца перыядычныя выданні, прадастаўляюцца памяшканні для правядзення літаратурных вечарын.

На тэрыторыі раёна дзейнічаюць сем нацыянальных грамадскіх аб'яднанняў. Найбольш шматлікія з іх — "Таварыства польскай культуры на Лідчыне", рэгіянальна-мемарыяльнае культурнае аб'яднанне яўрэяў, аб'яднанне літоўцаў "Рута", лідскі раённы аддзел аб'яднання "Саюз палякаў на Беларусі" з трыма пярвічнымі арганізацыямі ў вёсках Беліца і Ёдкі, гарадзе Бярозаўка. Сітуацыя, звязаная са становішчам нацыянальных меншасцей у раёне, характарызуецца стабільнасцю і адсутнасцю якіх-небудзь сутыкненняў на этнічнай, расавай, лінгвістычнай і канфесійнай аснове. Тлумачыцца гэта, па словах Антона Глаўніцкага, той нацыянальнай палітыкай, што праводзяць дзяржаўныя органы, а таксама менталітэтам грамадзян, гістарычнымі традыцыямі мірнага міжэтнічнага ўзаемадзеяння, даўнімі сувязямі паміж этнічнымі групамі.

На базе агульнаадукацыйных школ, клубаў, бібліятэк нацыянальнымі аб'яднаннямі пры ўдзеле дзяржаўных органаў створаны і адкрыты класы, факультатывы, гурткі па вывучэнні роднай мовы, культуры народаў. У 2005-2006 гадах вывучэнне польскай мовы як прадмета вядзецца ў чатырох школах. З мэтай стымулявання навучальнай дзейнасці, актывізацыі пазашкольнай работы па прадметах, фарміравання і развіцця культуразнаўчага патэнцыялу праводзіцца традыцыйны конкурс для тых, хто вывучае польскую мову.

Для задавальнення патрэб прадстаўнікоў яўрэйскай і літоўскай нацыянальнасцей пры грамадскім аб'яднанні літоўцаў "Рута" і рэгіянальна-мемарыяльным культурным аб'яднанні яўрэяў працуюць школы выхаднога дня, у якіх займаюцца як дзеці, так і дарослыя.

Узаемадзеянне райвыканкама з нацыянальна-культурнымі грамадскімі аб'яднаннямі ажыццяўляецца ў розных формах і ахоплівае асноўныя аспекты іх дзейнасці. Так, ансамбль польскай песні "Крэсовяце" "Таварыства польскай культуры на Лідчыне", ансамбль яўрэйскай музыкі "Шалом" працуюць на базе гарадскога Дома культуры пры арганізацыйнай, метадычнай і матэрыяльнай падтрымцы з боку органаў выканаўчай улады. Пры Доме культуры дзейнічаюць таксама яўрэйскае аб'яднанне "Добро пожаловать", аб'яднанне аматараў польскай культуры, аб'яднанне літоўцаў, польскі ансамбль маладзёжнага танца, польскі хор пажылых людзей.

Пытанні жыццядзейнасці нацыянальна-культурных аб'яднанняў, дзяржаўнай палітыкі ў этнаканфесійнай сферы перыядычна асвятляюцца на старонках "Лідской газеты", "Принёманских вестей", лідскім радыё і тэлебачанні, аб чым паведамілі галоўны рэдактар "Лидской газеты" Іван Швакель і галоўны рэдактар "Лідскага тэлерадыёаб'яднання" Ніна Позняк на экскурсіі па культурных і гістарычных мясцінах Ліды, арганізаванай для ўдзельнікаў калегіі.

Важным напрамкам дзейнасці, кааРдынацыяй якога займаецца Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей і яго мясцовыя падраздзяленні, з'яўляецца ўзаемадзеянне дзяржаўных і грамадскіх структур Рэспублікі Беларусь з беларускай дыяспарай і суайчыннікамі за мяжой. Нацыянальныя грамадскія аб'яднанні раёна супрацоўнічаюць з суайчыннікамі. Пры падтрымцы райвыканкама тут праходзяць Сусветныя з'езды лідчан. Усяго адбылося восем такіх з'ездаў, у гэтым годзе запланаваны дзявяты. Адбудзецца ён пры падтрымцы мясцовых органаў улады, Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

Праводзіцца работа па прыцягненні прадстаўнікоў дыяспары да эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця нацыянальнай культуры. У гэтым працэсе таксама прымаюць удзел нацыянальна-культурныя аб'яднанні. У Варшаве створаны Агульнапольскі клуб сяброў Лідчыны, пры ўдзеле Камітэта гісторыі польскай навук Акадэміі навук Польшчы выдадзена некалькі кніг аб вядомых палякях, чый лёс звязаны з Лідчынай. Рэгіянальна-мемарыяльнае культурнае аб'яднанне супрацоўнічае з дыяспарай лідскіх яўрэяў у Ізраілі і ЗША.

Кіраўнік аддзела па справах нацыянальнасцей Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Юрый УРАЛЬСКІ прааналізаваў поспехі дзяржаўных органаў па рабоце з нацыянальна-культурнымі і рэлігійнымі арганізацыямі, а таксама акрэсліў праблемы, характэрныя як для раёна, так і для ўсёй краіны. У раёне склаліся ўстойлівыя формы і метады работы з нацыянальна-грамадскімі аб'яднаннямі. Задавальняюцца па магчымасці іх просьбы і запатрабаванні, аказваецца неабходнае садзейнічанне ў вырашэнні праблемных сітуацый, праводзяцца сумесныя мерапрыемствы з дзяржаўнымі ўстановамі культуры, адукацыі і інфармацыі. Прычым падтрымліваюцца перш за ўсё мерапрыемствы ці праекты творчыя, культурна-асветніцкага характару. Тым самым дзяржаўныя органы папярэджваюць адасабленне грамадзян і палітызацыю грамадскіх структур. Аднак не заўсёды ў поўнай меры ўдаецца выкарыстаць патэнцыял даных арганізацый для агульных мэт развіцця культурнага і грамадскага жыцця раёна. Так, калі раней правядзенню Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур папярэднічалі гарадскі і раённы фестывалі, то апошнім часам гэта не рабілася.

Агульным для рэспублікі пытаннем у дзейнасці нацыянальных аб'яднанняў, актуальным і для Лідскага раёна, з'яўляецца пошук памяшканняў для статутнай дзейнасці кіраўніцтва арганізацый. Пры Віцебскім і Полацкім гарвыканкамах створаны і ўжо на працягу некалькіх гадоў паспяхова дзейнічаюць цэнтры нацыянальных культур. Такія ўстановы з функцыямі арганізацыйна-практычнай і метадычнай дапамогі нацыянальна-грамадскім аб'яднанням не будуць лішнімі і ў Лідзе. Важным пытаннем з'яўляецца таксама сітуацыя, якая склалася сярод польскіх грамадскіх аб'яднанняў. Унутрыарганізацыйны канфлікт наглядна прадэманстраваў неабходнасць інтэграцыі дзейнасці нацыянальных аб'яднанняў і створаных імі структур пры дзяржаўных установах у галінах культуры, адукацыі, інфармацыі.

Лідскі раён — складаны з канфесійнага пункту гледжання. Тым не менш стан міжканфесійных адносін стабільны. Пачынаючы з 2000 года, рост колькасці рэлігійных супольнасцей не адзначаецца. У раёне існуе 46 супольнасцей 11 канфесій і дэнамінацый, з якіх 16 праваслаўных, 17 рымска-каталіцкіх, 1 грэка-рымская, 1 мусульманская, 1 прагрэсіўнага іудаізму, 10 пратэстанцкіх.

Райвыканкамам за апошнія гады зроблена нямала. Склаўся пазітыўны вопыт рэгулявання дзяржаўна-канфесійных адносін. Дзейнасць па рэгуляванні канфесійнай сферы з'яўляецца ў раёне рознабаковай. Можна канстатаваць, што сёння працуе некалькі выканаўчых і распарадчых органаў, якія кантралююць выкананне заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях. У раёне склаўся пазітыўны вопыт супрацоўніцтва з рэлігійнымі арганізацыямі, выкарыстоўваецца патэнцыял традыцыйных канфесій у духоўным выхаванні насельніцтва, у сферы сацыяльнай работы.

У Лідскім раёне ёсць і нявырашаныя праблемы ў этнаканфесійнай сферы. Сур'ёзнымі пытаннямі, напрыклад, з'яўляюцца выкарыстанне дзяржаўных моў у дзейнасці рэлігійных арганізацый і рэгламентацыя навучання рэлігіі дзяцей у рэлігійных арганізацыях.

Ва заключным слове старшыня Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід ГУЛЯКА адзначыў, што ўсе пытанні, якія былі ўзняты на пасяджэнні, маюць агульнарэспубліканскае значэнне. Для іх вырашэння неабходна сумесная зладжаная работа Камітэта, мясцовых органаў улады, а таксама міністэрстваў — культуры, адукацыі і інфармацыі.

Удзельнікі пасяджэння прыйшлі да высновы, што ў Лідскім раёне, як і ва ўсёй краіне, назапашаны значны вопыт работы па рэгуляванні адносін у этнаканфесійнай сферы, створана і функцыянуе сістэма работы з рэлігійнымі арганізацыямі і нацыянальнымі грамадскімі аб'яднаннямі, якая здольна забяспечыць выкананне патрабаванняў заканадаўства і нарматыўна-прававой базы Рэспублікі Беларусь.

Па выніках пасяджэння калегіі прынята рашэнне рэкамендаваць Лідскаму раённаму Савету дэпутатаў прымаць удзел у ажыццяўленні кантролю за выкананнем заканадаўства аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях, запланаваць на 2007 год фінансавую падтрымку мерапрыемстваў і праектаў нацыянальных грамадскіх арганізацый; распрацаваць раённы план на 2006-2007 гады па выкананні комплекснай праграмы мер па рэгуляванні этнаканфесійнай сітуацыі і садзейнічанні нацыянальна-культурнаму развіццю нацыянальных супольнасцей, змясціць у ім раздзел па выкананні рэлігійнымі арганізацыямі заканадаўства аб мовах; арганізаваць і правесці на працягу года раённы семінар па пытаннях выканання заканадаўства ў этнаканфесійнай сферы з удзелам супрацоўнікаў Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей; размяшчаць у мясцовых СМІ інфармацыйныя матэрыялы і інтэрв'ю з супрацоўнікамі дзяржаўных органаў, прадстаўнікамі духавенства, веруючымі па пытаннях выкарыстання дзяржаўных моў рэлігійнымі арганізацыямі; забяспечыць па магчымасці нацыянальныя грамадскія аб'яднанні офісным памяшканнямі; актывізаваць супрацоўніцтва з грамадскім аб'яднаннем "Саюз палякаў на Беларусі", выкарыстоўваць патэнцыял аб'яднання ў культурным і грамадскім жыцці раёна; прыняць удзел у падрыхтоўцы і правядзенні ў 2006 годзе пры дзяржаўнай падтрымцы "IX з'езда лідчан свету"; арганізаваць у раёне (з удзелам БРСМ) грамадскую акцыю па збору мастацкай, навуковай і метадычнай літаратуры, аўдыё— і відэазапісаў беларускіх выканаўцаў для перадачы аб'яднанням суайчыннікаў за рубяжом...

Камітэтам па справах рэлігій і нацыянальнасцей будуць распрацаваны рэкамендацыі па рабоце з нацыянальнымі грамадскімі арганізацыямі для мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, арганізавана правядзенне разам з Саветам па справах рэлігій і нацыянальнасцей Гродзенскага аблвыканкама адукацыйнага семінара для кіраўнікоў нацыянальных грамадскіх аб'яднанняў па асноўных пытаннях статутнай дзейнасці, канструктыўнага ўзаемадзеяння з дзяржаўнымі органамі. Будуць праведзены таксама семінары з прадстаўнікамі рай-, гарвыканкамаў па пытаннях рэгулявання канфесійнай сітуацыі і праваприменяльнай практыкі заканадаўства аб свабодзе сумлення, веравызнання і рэлігійных арганізацыях; распрацаваны дадатковыя мерапрыемствы па актывізацыі ўзаемадзеяння мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў з аб'яднаннямі за рубяжом. Плануецца аказанне метадычнай дапамогі зацікаўленым у працэсе стварэння Лідскім райвыканкамам Цэнтра нацыянальных культур.

**Кацярына НЕМАГАЙ.**

НА ЗДЫМКУ: выступае Леанід ГУЛЯКА.

**Фота Наталлі НАВУМЕНКІ.**

# Каб Малдовы агонь не патух

**Малдову я палюбіў задоўга да таго, як пабываў там, за яе чароўныя песні і палымяныя танцы. А калі напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя каля Ракава на беразе маляўнічай Ісачы адкрыўся Дом творчасці беларускіх пісьменнікаў і да нас пачалі прыязджаць пісьменнікі з розных рэспублік Савецкага Саюза, з якімі мы дзяліліся і думкамі, і песнямі, узаемна абагачаючы адзін аднаго, я з вуснаў малдаўскіх літаратараў упершыню пачуў напеўныя радкі жамчужыны малдаўскага фальклору балады "Міярыца" і філасафічна-рамантычнай паэмы класіка малдаўскай і румынскай літаратуры Міхая Эмінеску "Лучафер", дык адразу загарэўся жаданнем скласці і выдаць на беларускай мове анталогію малдаўскай паэзіі.**

З энтузіязмам узяўся за ажыццяўленне сваёй задумы. Выпісаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура" камандзіроўку (тады гэта было магчыма) і ў сярэдзіне мая 1989 года прыляцеў у Кішынёў. Сталіца Малдовы сустрэла мяне сонечным надвор'ем і салодкай таннай чарэшняй. Пазнаёміўся з супрацоўнікамі Галоўнай рэдакцыйнай калегіі па мастацкім перакладзе і літаратурных сувязях пры Саюзе пісьменнікаў Малдовы, якую ўзначальваў вядомы паэт Іон Геаргіцэ. Адзін з іх Віталіе Балтаг вучыўся разам з Міколам Федзюковічам у Маскве ў Літаратурным інстытуце. Дарэчы, менавіта тады ён падараваў нашаму таленавітаму паэту падрадкоўнік "Лучафера" Міхая Эмінеску. Але пра гэта ён тады мне чамусьці не сказаў. Даведаўся пра гэта я ад самога Федзюковіча толькі пасля таго, як 11 лістапада 1993 года газета "Чырвоная змена" надрукавала яго пераклад геніяльнай паэмы, калі анталогія ўжо была падрыхтавана да друку. Мне ж ён падараваў унікальную кнігу малдаўскіх балад і песень на малдаўскай і рускай мовах "Кукушон ку панэ сурэ" ("Серокрылая кукушка"). На жаль, і Віталіе Балтаг (балтаг па-малдаўску — баявая сякера), і Мікола Федзюковіч, і Іон Геаргіцэ ўжо нябожчыкі.

Супрацоўнікам калегіі спадабалася мая задума. І недзе ў канцы лета два тамы арыгіналаў і два тамы падрадкоўнікаў лепшых паэтычных твораў малдаўскіх паэтаў і народных балад прывёз у Мінск вядомы малдаўскі літаратуразнавец Георге Мазілу, які выказаў жаданне быць складальнікам анталогіі з малдаўскага боку. Я вельмі ўдзячны яму за філасафічна-лірычны падбор твораў для анталогіі, якія найбольш поўна раскрываюць гісторыю і душу малдаўскага народа. Прадмову да анталогіі напісаў цяперашні старшыня Саюза пісьменнікаў Малдовы Іон Чакану.

У падрыхтоўцы анталогіі да друку прымалі ўдзел народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, лаўрэаты Дзяржаўных прэмій Пятро Макаль, Васіль Зуёнак, Янка Сіпакоў, Леанід Дайнека, Раіса Баравікова, Сяргей Законнікаў, Генадзь Пашкоў, лаўрэаты Літаратурных прэмій Сяргей Панізнік, Васіль Макарэвіч, Артур Вольскі, Юрась Свірка, Уладзімір Паўлаў, Яўген Міклашэўскі, Юрка Голуб, Мікола Маляўка, Мікола Чарняўскі, Валянціна Коўтун і іншыя нашы вядомыя паэты. Рэдактарам анталогіі быў прызначаны Кастусь Жук. Хоць нямецкая пісьменніцкая прымаўка сцвярджае, што пераклады вершаў, як жонкі (калі верныя, дык непрыгожыя, а калі прыгожыя, дык няверныя), перакладчыкі анталогіі пастараліся, каб іх пераклады былі верныя і прыгожыя. "Міярыцу" і "Лучафер" пераклаў Рыгор Барадулін.

Два гады запар (у 1991 і 1992 гадах) двухтомнік малдаўскай паэзіі ўключаўся ў тэматычныя планы выдавецтва "Мастацкая літаратура". Але свята малдаўскай паэзіі на нашу вуліцу прыйшло толькі напрыканцы 2003 года, калі ў Круглай зале Дэпартамента міжэтнічных зносін Малдовы і ў Беларускім таварыстве культурнай сувязі з замежнымі краінамі адбыліся прэзентацыі першага тома гэтай унікальнай анталогіі, які быў звярстаны выдавецтвам "Мастацкая літаратура" на сродкі Міністэрства інфармацыі Беларусі, а надрукаваны ў кішынёўскай "Tipograia Centrala" на сродкі Дэпартамента міжэтнічных зносін Малдовы. Значную фінансавую дапамогу ў выданні яго аказала генеральны дырэктар гандлёвага дома "Керамін" у Кішынёве Ганна Бабіна. З поспехам прайшлі прэзентацыі гэтага тома таксама ў Камраце, Бендэрах і Тыраспалі, на якіх прысутнічала шмат беларусаў, якія жывуць там, але якім да гэтага часу "сняцца сны аб Беларусі". Да слёз кранула мяне выступленне ў Камрацкім універсітэце перасяленкі з Гродзенскай вобласці, якая на памяць прачула прачытала верш Петруся Броўкі "Пахне чабор". Дарэчы, многія малдаўскія беларусы пішуць вершы (у тым ліку і на беларускай мове), а некаторыя нават выдаюць свае кнігі. Пасля паездкі ў Малдову мая бібліятэка папоўнілася паэтычнымі зборнікамі Івана Батрачкіна "Близкая даль", Мікалая Шляпо "Антология одной жизни" і Наталлі Сож (Паповай) "Ты опоздала, ночь".

Там жа адбылася мая сустрэча з філосафам Тадэушам Адуламам, які падараваў мне сваю манаграфію "Человек на рубеже тысячелетий: поиск духовных оснований бытия", у якой я знайшоў два такія сказы : "В целом же, если говорить о послевоенной истории, надо признать, что по мере роста численности интеллигенции государственные чиновники всё меньше внимания ей уделяли (особенно в области культуры)... Бюрократ не всегда объективен в отношении интеллектуально развитого человека". "В целом" я згодны з гэтым сцвярджэннем. Але менавіта "государственный чиновник" Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Малдове Васіль Андрэевіч Саковіч быў ініцыятарам выдання "Анталогіі малдаўскай паэзіі" ў Кішынёве пасля таго, як гэтага не адбылося ў Беларусі. Гэта ён дамогся ўключэння яе выдання ў сумесны план Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і Дэпартамента міжэтнічных адносін Рэспублікі Малдова і знайшоў спонсараў для яе выдання. Нізкі паклон яму за гэта.

А ў кастрычніку і лістападзе 2005 года ў той жа Круглай зале, праўда, ужо не Дэпартамента, а Бюро міжэтнічных зносін Малдовы і ў актавай зале мінскай бібліятэкі імя Янкі Купалы адбыліся прэзентацыі другога тома гэтай унікальнай анталогіі. На чарзе выданне анталогіі беларускай паэзіі на малдаўскай мове.

Малдова, як і Беларусь, з самага пачатку размяшчалася на шляху ўсіх бед. Але, нягледзячы на ўсе цяжкасці лёсу, працавітыя і таленавітыя малдаване, як і беларусы, выжылі і засталіся народам. Выжылі, як сцвярджаў вядомы культурны дзеяч Малдовы Георге Асакі (у 1828 годзе ён заснаваў першую малдаўскую гімназію, у 1835-м — Міхайлянскую акадэмію ў Ясах, а ў 1837-м — малдаўскую кансерваторыю), "Бо змагаўся ратай і пастух, // Каб Малдовы агонь не патух" (пераклад Леаніда Дайнекі).

Узаемасувязі паміж нашымі народамі, як сведчаць беларускія вучоныя-гісторыкі Мікалай Сташкевіч і Аляксандр Ціхаміраў, сталі развівацца яшчэ ў далетапісныя часы. На працягу некалькіх стагоддзяў Малдова была сферай палітычных інтарэсаў Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), у склад якога ўваходзілі і землі цяперашняй Беларусі. У 1374 годзе малдаўскія баяры запрасілі на прастол князя Юрыя Карыятовіча, а ў 1387 годзе малдаўскі гаспадар Петру І Мукат прынёс васальную прысягу Ягайле, які быў адначасова каралём польскім і вялікім князем літоўскім. Малдаўскія баяры падтрымлівалі Вітаўта ў яго барацьбе за захаванне суверэнітэту ВКЛ. У 1399 годзе малдаване разам з войскамі ВКЛ змагаліся супраць татар на Ворксле, а ў 1410-м удзельнічалі ў Грундвальдскай бітве.

У канцы XIV стагоддзя вялікае ўздзеянне на палітычнае жыццё Малдовы аказваў родзіч Ягайлы Свідрыгайла, які пасля смерці Вітаўта ў 1430 годзе стаў вялікім князем літоўскім. У час жорсткай барацьбы ў ВКЛ за вялікакняжаскі прастол у другой чвэрці XV стагоддзя ён часта знаходзіў у Малдове надзейнае схованішча.

У сярэдзіне XVI стагоддзя малдаўскія землі апынуліся ў васальнай залежнасці ад Асманскай імперыі і заставаліся пад яе ўладай да пачатку XIX стагоддзя. Па Яскім мірным пагадненні 1791 года, якім закончылася Руска-турэцкая вайна 1787-1791 гадоў, да Расіі адышла паўднёвая частка левабярэжжа Днястра, а пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) — і паўночная, дзе жылі малдаване. У 1812 годзе да Расіі была далучана і спрадвечная зямля малдаван з горадам Кішынёвам.

Многія жыхары Беларусі ў складзе рускай арміі ўдзельнічалі ў паходах супраць туркаў-асманаў і засталіся жыць у Малдове. Ёсць звесткі, што яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя ў Прыднястроўі пасяліліся беларусы, накіраваныя расійскім урадам на засваенне Наварасіі. У першай палове XIX стагоддзя шмат жыхароў Мінскай вобласці асела ў Кішынёве, а ў канцы XIX стагоддзя на землі Малдовы сталі актыўна перасяляцца жыхары Гродзенскай вобласці. Было нямала выпадкаў і адваротнага перасялення, калі малдаване перасяляліся ў Беларусь. Невыпадкова ж у маім Гарадоцкім павеце дагэтуль жыве легенда пра малдаванку Ляну, якую нібыта пасля заканчэння Першай руска-турэцкай вайны прывёз на сваю радзіму жыхар вёскі, дзе потым нарадзіўся аўтар паэмы "Тарас на Парнасе" Канстанцін Вераніцын, і доўгі час свой прывабны "трафей" хаваў на востраве пасярод возера, да якога тулілася яго вёска, і як быццам яна з таго часу мае назву Астраўляны (востраў Ляны). Зараз у Малдове жывуць каля 20 тысяч беларусаў, а ў Беларусі — больш за чатыры тысячы малдаван.

Натуральна, што блізкасць гістарычных лёсаў нашых народаў спрыяла іх культурнаму збліжэнню.

Так, у 1643 годзе мітрапаліт ВКЛ Пятро Магіла накіраваў у Ясы друкара Віленскай брацкай тыпаграфіі Самуіла Рагулю, які арганізаваў у Ясах друкарню і выдаў першую малдаўскую друкаваную кнігу "Карцяд ынвенцатурэ" ("Благавесце настаўніцкае"), а заснавальнікам Кішынёўскай мастацкай школы быў Уладзімір Вульгенцьевіч Акушка, які нарадзіўся 7 лютага 1862 года ў Ашмянах. У 2003 годзе на мастацкім каледжы Кішынёва была ўмацавана мемарыяльная дошка ў яго гонар. Дарэчы, апавяданне рускага пісьменніка Глеба Успенскага "Выпраміла" напісана паводле яго жыццёвых нягод. У Кішынёве пачыналі сваю творчую дзейнасць народны мастак Беларусі Гаўрыіл Вашчанка і народная артыстка Беларусі Наталля Гайда. А старшыня таварыства "Малдова — Беларусь" заслужаная артыстка Малдовы Маргарэта Івануш жыла ў Гомелі і скончыла там музычнае вучылішча. На ўрачыстым адкрыцці Дзён малдаўскай культуры ў Беларусі, якія толькі што адбыліся, яна цёпла і бяражна выканала песню Юрыя Семянякі на словы Алеся Ставера "А мне ў шчасце верыцца", а ў заключны дзень — песню "Явар і каліна" на словы Янкі Купалы.

Малдаване, як і беларусы, працавіты, гасцінны, спеўны і добразычлівы народ.

*Не абражаем з імі мы нікога,*
*Бо нашы душы — дабрыні алтар.*
*У малдаван і беларусаў многа*
*Агульных слоў. Адно з іх —*
*"гаспадар".*

*Хачу, каб дбайнымі гаспадарамі,*
*А не гасцямі на сваёй зямлі*
*І вернымі надзейнымі сябрамі*
*Народы шматпакутныя былі.*

**Уладзімір СКАРЫНКІН,**
**старшыня таварыства "Беларусь — Малдова".**

**Прэзентацыя**

## Летапіс яўрэяў Гродзеншчыны

***Рэспубліка Беларусь — шматнацыянальная краіна. На яе прасторах жывуць сёння прадстаўнікі больш чым 140 этнасаў. За апошняе дзесяцігоддзе выйшаў шэраг навуковых і навукова-папулярных даследаванняў па гісторыі беларусаў, беларускіх палякаў, беларускіх татар, беларускіх карэйцаў.***

*Прадметам навуковага вывучэння стала і гісторыя беларускіх яўрэяў. Сярод работ па гэтай праблеме трэба назваць даследаванні Яўгена Анішчанкі, Эдуарда Савіцкага, Юліі Функ, Леаніда Смілавіцкага, Іны Герасімавай, Яўгена Розенблата, Ірыны Яленскай, Андрэя Кіштымава, Іны Соркінай, а таксама аўтара гэтых радкоў.*

*Прыкметнае месца ў гістарыяграфіі яўрэяў Беларусі займаюць працы гродзенскага гісторыка і культуролага Вольгі Сабалеўскай. Акрамя кнігі "Спрадвечныя іншаземцы: старонкі гісторыі гарадзенскіх яўрэяў" (Гародня, 2000), ёй пяру належыць шэраг вельмі каштоўных навуковых артыкулаў, надрукаваных не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі, Польшчы, Украіне.*

*І вось новая кніга "Яўрэі Гродзеншчыны. Жыццё да Катастрофы", якая напісана Вольгай Сабалеўскай у садружнасці з украінскім гісторыкам Уладзімірам Ганчаровым. Гэтая манаграфія выйшла ў Данецку ў 2005 годзе і налічвае 375 старонак.*

*Рэцэнзуемая кніга прысвечана гісторыі яўрэяў-літвакоў Гродзеншчыны на працягу з 1795 па 1939 год. Манаграфія прысвечана сацыяльнаму і эканамічнаму жыццю яўрэяў Гродзеншчыны з канца XVIII стагоддзя да пачатку Другой сусветнай вайны. У ёй таксама знайшлі адлюстраванне культурнае жыццё яўрэйскай абшчыны, а таксама паўсядзённае жыццё яўрэяў Гродзеншчыны.*

*Адна з вартасцей кнігі В.Сабалеўскай і У.Ганчарова заключаецца ў яе вельмі шырокай базе крыніц. У першую чаргу, гаворка ідзе аб фондах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці, Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Мінску, Дзяржаўнага архіва Расійскай Федэрацыі, Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва ў Маскве, трох архіваў Украіны, архіваў Польшчы і Ізраіля.*

*Бадай, ніхто з беларускіх даследчыкаў так дэталёва і глыбока не вывучыў заканадаўчыя акты, актавыя крыніцы, рэлігійна-прававую літаратуру, статыстычныя матэрыялы, матэрыялы перыядычнага друку, мемуары і дзённікі падарожжаў, этнаграфічныя замалёўкі, як зрабілі гэта аўтары разглядаемай манаграфіі.*

*Цікава, што ў манаграфіі ўздымаюцца пытанні ўзаемаўплыву культур народаў Беларусі, у тым ліку яўрэйскіх моў — іўрыта і ідыш і беларускай мовы.*

*Вельмі добра, што ў дадатках да кнігі дадзены сем каштоўных табліц і 15 малюнкаў. Увагу чытачоў прыцягне малюнак 8 з касцюмам беларускіх яўрэяў XIX стагоддзя (з фондаў Дзяржаўнай цэнтральнай тэатральнай бібліятэкі ў Маскве) і малюнак 10 "Эскіз каменнага малітоўнага дома на вуліцы Бульварнай у Беластоку (1900)" (з фондаў НРАБ у Гродне).*

*Шкада, што аўтары манаграфіі не выкарысталі многія даследаванні аб яўрэях Гродзеншчыны, выдадзеныя ў Ізраілі, не правялі параўнальнага аналізу культурнага жыцця яўрэйскай абшчыны гэтага рэгіёна з іншымі рэгіёнамі Расійскай імперыі.*

*Без сумнення, кніга В.Сабалеўскай і У.Ганчарова — фундаментальнае і каштоўнае даследаванне, якое напісана на еўрапейскім узроўні. Яна ўносіць значны ўклад у гістарычную навуку, у гісторыю нацыянальных меншасцей Рэспублікі Беларусь.*

**Эмануіл ІОФЕ,**
**доктар гістарычных навук.**

СКАРБОНКА

Майстэрня







# З гісторыі саломапляцення

*Пляценне — адно з самых старажытных рамёстваў, асвоеных чалавекам. Яно было развіта ў многіх народаў, якія насяляюць Зямлю. Для пляцення звычайна выкарыстоўваліся раслінныя матэрыялы, распаўсюджаныя ў той ці іншай частцы зямнога шара. Традыцыя выкарыстання для пляцення саломкі злакавых культур, якія апрацоўвае чалавек, стала працягам традыцыі пляцення дзікіх раслін і пакланення чалавека паміраючым і ўваскрасаючым бажаствам расліннага свету.*

Сфарміраваліся два асноўныя напрамкі развіцця пляцення. Адзін меў рытуальнае значэнне і паходжанне сваё вёў са сферы вераванняў і пакланенняў чалавека вярхоўным бажаствам прыроды, другі адносіцца да сферы матэрыяльнага жыцця чалавека. Вясковыя жыхары, якія займаюцца земляробствам у розных кутках зямнога шара, выкарыстоўвалі саломку ў сваіх гаспадарках і побыце. Ёю пакрывалі дахі дамоў і падсцілалі свойскім жывёлам, рабілі цыноўкі і ўцяпляльныя маты, разнастайнае начынне для захавання, пераноскі прадуктаў і вопраткі, з яе выраблялі галаўныя ўборы і абутак, а ў некаторых краінах — элементы верхняга адзення.

Самым старажытным злакам, які пачаў культываваць чалавек, з'яўляецца пшаніца. Яна распаўсюдзілася са сцipных раёнаў Сярэдняга і Блізкага Усходу (з Месапатаміі, Палесціны, Сірыі) каля 8000 гадоў да нашай эры. Самымі старажытнымі мастацкімі доказамі культавых адносін да пшаніцы з'яўляюцца малюнкі егіпцян, на якіх намаляваны апрацаваныя пшанічныя палі.

У Беларусі земляробства стала вядома з часоў неаліту (3-яе тысячагоддзе да нашай эры). Першае месца сярод збожжавых культур да XI стагоддзя на тэрыторыі Беларусі займала пшаніца. Жыта



да VII-IX стагоддзя ўвогуле не высейвалася. Яно распаўсюджвалася на гэтыя землі з Каўказа праз Украіну. Асноўнай збожжавай культурай жыта стала пачынаючы з XII стагоддзя. Жытнюю салому замест пшанічнай сяляне пачалі выкарыстоўваць у гаспадарцы і для вырабу розных абрадавых і побытавых прадметаў.

У Беларусі гісторыя саломапляцення, як і ва ўсіх астатніх земляробчых народаў, ідзе з абрадаў, звязаных з культамі хлеба і саломы. Нашы продкі верылі ў боскую сілу саломы і зерня, якія зберагалі ў сабе жыватворную сілу прыроды і шчодра аддавалі яе не толькі сцёблам і калоссем новага ўраджаю, але ўсім, хто сутыкаўся з імі. Таму так шанаваўся апошні сноп, убраны з поля, — ён захоўваўся ў доме да новага ўраджаю. З саломай сяляне звязвалі сваё будучае жыццё, даручыючы ёй ролю прадказальніцы ў шматлікіх калядных варожбах. Збожжам асыпалі маладых на вяселлі, маладую саджалі на салому, каб сіла раслін перадалася маладой сям'і і будучым дзецям.

Гісторыя мастацтва складаецца з пярэстай мазаікі з'яў і падзей, як і лёсаў людзей, якія іх ствараюць. Гісторыя беларускага саломапляцення ведала перыяды росквіту і ўпадку. Канец XVIII — пачатак XIX стагоддзя назаўсёды застанецца ў гісторыі як час найбольшага росквіту гэтага мастацтва на тэрыторыі Беларусі. У гэты перыяд беларускімі майстрамі былі створаны такі шэдэўр, як унікальныя саламяныя Царскія дзверы. Да нашых дзён захавалася тры арыгіналы Царскіх дзвярэй. Упадак у саломапляценні пасля росквіту ў XVIII — пачатку XIX стагоддзя пачаўся з сярэдзіны XIX стагоддзя. Саламяныя выявы жывёл і птушак стрsuccвалі сваю абрадавую значнасць і паступова перайшлі ў ранг дзіцячых цацак і пусцяковых забаў, час на выраб якіх не заўсёды можна было адшукаць у нялёгкім паўсядзённым сялянскім жыцці.

Саламяныя побытавыя вырабы для захоўвання прадуктаў, зерня, якія былі незаменнымі ў сялянскім побыце на працягу многіх стагоддзяў, хоць і марудна, але таксама сталі выцясняцца сучаснымі вырабамі. А па трываласці яны маглі спаборнічаць з любымі з іх. Ёмкасці, вырабленыя ў тэхніцы спіральнага пляцення, мелі самыя розныя памеры і формы, знаходзілі шырокае прымяненне ў гаспадарцы.

З сярэдзіны XIX стагоддзя пачаў змяншацца і выраб элементаў адзення з саломкі. Самым распаўсюджаным з іх быў саламяны капялюш, які з'яўляўся абавязковай часткай народнага летняга мужчынскага касцюма. Паступова вясковыя жыхары сталі аддаваць перавагу галаўным уборам фабрычнай вытворчасці, а капелюшы працягвалі насіць для аховы ад сонца ў час работ у полі ці ў час пасьбы.

**Таццяна РЭПІНА.**

НА ЗДЫМКАХ: посуд, плецены з саломы і лазы; дэталь насценнага роспісу "Малацьба" (старажытны Егіпет, 3-2 тысячагоддзі да нашай эры); Царскія дзверы з саломы (XVIII стагоддзе); саламянікі — зімовы абутак, плецены з саломы (вёска Казлы Нясвіжскага раёна, пачатак XX стагоддзя).

Захавай традыцыю

# Спадчына продкаў — багацце і гонар нашчадкаў





*Традыцыйны касцюм кожнага народа непарыўна звязаны з яго гісторыяй, культурным і эканамічным развіццём, з народнымі звычаямі, этыкай і эстэтычнымі нормамі, што выпрацоўваліся стагоддзямі.*

Чым больш мы аддаляемся ад таго часу, калі традыцыйныя строі былі ў паўсядзённым ужыванні, тым больш каштоўнымі для нас становяцца як яны самі (на жаль, не так багата іх ужо і засталося), так і звесткі пра іх у выглядзе фотаздымкаў, этнаграфічных апісанняў і замалёвак. Таму кожная выстава ці публікацыя па гэтай тэме ўносяць важны ўклад у справу знаёмства сучаснікаў з культурнай спадчынай іх продкаў і захавання яе для нашчадкаў. Прыкладам гэтаму з'явілася выстава беларускіх народных строяў Падляшша, што праходзіла з чэрвеня па верасень 2005 года ў Музеі Бельска-Падляскага, а таксама выдадзены да яе каталог.

Аўтар каталога і куратар выставы — Дарафей Фіёнік — руплівы даследчык народнай культуры, які зацікаўлены ў комплексным падыходзе да яе вывучэння. Таму ў падрыхтаваны ім каталог, акрамя апранутых на моладзь і прыгожа сфатаграфаваных строяў, што былі паказаны на выставе, увайшлі цікавыя архіўныя фотаздымкі розных перыядаў. Яны значна пашырылі інфармацыйны і вобразны рад каталога і падкрэслілі ідэю непарыўнай сувязі паміж пакаленнямі. У каталогу таксама змешчаны этнаграфічныя апісанні розных аўтараў, зробленыя ў сярэдзіне XIX — другой палове XX стагоддзя, што значна павышае яго каштоўнасць у навуковым плане. Тэрміналагічны слоўнік, дадзены ў канцы каталога, з'яўляецца вельмі важным для захавання мясцовых назваў розных частак традыцыйнага адзення, іх тлумачэння і параўнання з іншымі падобнымі матэрыяламі.



**Марыя ВІННІКАВА.**

НА ЗДЫМКАХ: вокладка каталога; фатаграфія народных строяў беларусаў Падляшша, змешчаныя ў ім, — сучасныя і архіўныя.

Народны каляндар

## "Сакавік часамі снегам сее, а часамі сонцам грэе"

Пачатак у №8-9

**14 сакавіка** праваслаўныя адзначаюць Аўдакею (або Аўдоццю Вяснoўку, Яўдоху) — першы дзень вясны, якую гукалі, сустракалі песнямі.

**17 сакавіка** — дзень прылёту гракоў. **20-21** — дзень астранамічнага веснавога раўнадзенства.

**22 сакавіка** — Саракі, калі, як лічыцца ў народзе, прылятае 40 выраяў. Выпякалі з мукі 40 жаваранкаў для дзяцей або 40 варэнікаў, 40 маленькіх піражкоў, галушак. Гушкаліся на арэлях. Лічыцца, што сарока пачынае віць сабе гняздо ў гэты час, для чаго прыносіць 40 прутікаў. Але чакаецца яшчэ 40 маразоў.

**25 сакавіка** — Рыгор у праваслаўных, пра які ў народнай песні гаворыцца: "А святы Рагор спусціў ваду з гор, ваду ў зямлю, а з зямлі траву".

З **26 сакавіка па 7 красавіка** — Міжблагавешчыны. У гэты перыяд чакалі прылёту буслоў. Убачаць лятучага — добрая прыкмета: цэлы год будзеш жвавы, не будуць балець ногі.

**30 сакавіка** — Аляксей Цёплы, які лічыцца цёплым веснавым днём: гукаюць вясну, рыхтуюцца да пасеву лёну, аўса. Дзень рыбалова.

Паводле "Народнага календара" Алеся ЛОЗКІ.

# БГКТ – трываласць традыцый






















***Пяцідзесяцігоддзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, якое прыпала на 25-26 лютага, стала падзеяй для ўсёй беларускай дыяспары. Сведчанне таму і віншаванні, якія даслалі згуртаванні беларусаў з Латвіі, Літвы, Эстоніі, Расіі, Украіны, Казахстана...***

*З Беларусі ж на ўрачыстасці прыехала прадстаўнічая дэлегацыя, у склад якой увайшлі парламентарыі, прадстаўнікі міністэрстваў — замежных спраў, адукацыі, культуры, а таксама Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей, таварыства "Радзіма"...*

*Нават калі не ведаць аб пэўных складанасцях, якія сёння існуюць у беларуска-польскіх адносінах і маюць свой адбітак на самапачуванні БГКТ, юбілейныя мерапрыемствы ўразілі сваёй масавасцю і змястоўнасцю. А калі хоць часткова знаходзішся ў курсе палітычных інтрыг, разумееш, наколькі цывілізавана і прыстойна пераадольваюць перашкоды кіраўнікі БГКТ і перш за ўсё старшыня Галоўнага праўлення Ян Сычэўскі. Але сёння ў фотарэпартажы ўзгадаем пра самыя эмацыянальныя моманты свята: шматлікія віншаванні, узнагароджанні, канцэрты, выставы...*

*НА ЗДЫМКАХ: XIII Агульнапольскі фестываль "Беларускай песні" ў Беластоку(1,5); урачыстае пасяджэнне ГП БГКТ(2); старшыня ГП БГКТ Ян СЫЧЭЎСКІ (3); сакратар ГП БГКТ Валянціна ЛАСКЕВІЧ узнагароджана медалём "Глорыя Арціс" за ўклад у развіццё культуры Польшчы (4); ветэран таварыства Сцяпан ЗЕНЮК (6); Беларускі музей у Гайнаўцы (7); ад імя Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Беларусі таварыства вітае намеснік старшыні Уладзімір ЛАМЕКА (8); вядучая гала-канцэрта, сябар БГКТ Эва ЛАСКЕВІЧ (9); адзін з заснавальнікаў БГКТ Ян ЗЕНЮК (10); ад Беларусі жыхароў Падляшша вітала Ксенія СІТНІК (11).*






**Наталля САЛУК. Фота Юрыя ІВАНОВА.**
Мінск — Беласток — Гайнаўка — Мінск.

# Узнагароджаны Полацкі музей-запаведнік



***Спецыяльнай прэміяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2005 года ў галіне музейнай справы ўзнагароджаны Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік "за значны ўклад у развіццё музейнай справы, стварэнне ў складзе музея-запаведніка Дзіцячага і Прыродна-экалагічнага музеяў".***



Калектыў аддзела дзіцячай музейнай педагогікі запаведніка працаваў над стварэннем Дзіцячага музея, першага ў гісторыі Беларусі, больш за 10 гадоў. А размясціўся ён у будынку, які з'яўляецца помнікам архітэктуры канца XIX стагоддзя. На яго рэканструкцыю было выдзелена 300 мільёнаў рублёў з бюджэту Віцебскай вобласці, а яшчэ 150 мільёнаў — на набыццё і афармленне экспанатаў. Праект ажыццяўляўся пад патранатам старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Андрэйчанкі.

У дворыку, акружаным металічнай агароджай, наведвальнікаў сустракае бронзавая скульптура школяра часоў Францыска Скарыны, шпакоўня-гадзіннік, а час ад часу тут праводзяцца выставы пад адкрытым небам. Першая экспазіцыя — калекцыя старажытных гадзіннікаў, затым наведвальнікі знаёмяцца з разнастайнымі званамі, званіцай, рознымі прыстасаваннямі для запісу і перадачы гуку, калекцыяй пласцінак, самавараў і іншых рэчаў. Дзеці і самі могуць удзельнічаць у стварэнні экспазіцый: у спецыяльна аформленай вітрыне выставіць свае ўласныя калекцыі алавяных салдацікаў, лялек, марак, этыкетак, а ў экспазіцыі "Радавод" — пісьмовыя работы, прысвечаныя пошукам радаводных каранёў сваёй сям'і або звесткам пра знакамітых палачан.



Прыродна-экалагічны музей адчыніўся ў Полацку ў верасні 2005 года і размешчаны на пяці паверхах у будынку былой водацяжнай вежы на вуліцы Францыска Скарыны. Яго адкрыццё было прымеркавана да правядзення III Рэспубліканскага экалагічнага форуму. А за год да гэтага ў Полацку прайшоў I Міжнародны экалагічны фестываль. Асноўнымі мэтамі мерапрыемстваў былі экалагічная адукацыя і выхаванне. У Полацку шмат робіцца для захавання чысціні і парадку. Горад знаходзіцца ва унікальным прыродным асяроддзі, якое трэба захаваць для будучых пакаленняў, таму на базе Прыродна-экалагічнага музея вядзецца пастаянная выхаваўчая работа і навучанне дзяцей даследаванню і ахове стану паветра, вады, глебы, раслін, жывёл і птушак у горадзе і вакол яго.

Плануецца, што на базе гэтай установы будзе створана лабараторыя, дзе пад кіраўніцтвам музейных работнікаў і школьных настаўнікаў будуць працаваць дзеці. У школьнай праграме прадугледжана вывучэнне экалогіі, і гэта лабараторыя, як і ўвесь музей, стануць добрымі памочнікамі ў паглыбленні набытых тэарэтычных ведаў. Полацк размешчаны на беразе ракі Заходняя Дзвіна, а Падзвінне ўвогуле лічыцца краем азёр і рэк, якія падпітваюць гэту вялізную водную артэрыю краіны, якая нясе свае воды ў Балтыйскае мора. Каля рэк жыве мноства жывёл і птушак, растуць рэдкія расліны. 40 працэнтаў Віцебшчыны займаюць лясы, 13 працэнтаў — лугі. Таму людзі, якія насяляюць такі унікальны край, павінны адпаведным чынам сябе паводзіць, каб захаваць яго для нашчадкаў. Полацкі прыродна-экалагічны музей, які стаў адзінаццатым сярод тых, што ўваходзяць у склад Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, з гэтай задачай паспяхова спраўляецца.

У Полацку зараз кожны год адчыняецца новы музей, і кожны з іх выконвае сваю важнейшую задачу, скіраваную на захаванне спадчыны. У планах — адкрыццё музея гісторыі горада, музеяў архітэктуры і гісторыі гандлю. Старажытны Полацк — духоўная гістарычная сталіца Беларусі, і створаны тут у 1967 годзе музей-запаведнік годна выконвае сваю высокую місію па яе захаванні.

**Рэгіна ГАМЗОВІЧ.**

НА ЗДЫМКАХ: у адной з зал і ў дворыку Дзіцячага музея; 5-павярховая вежа, у якой размясціўся Прыродна-экалагічны музей.

**Фота з архіва музея-запаведніка.**

## Крыжаванка ад Лявонція ЦЕЛЕША

***ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:***

*1. Багата ... кветкамі, а восень палеткамі (прыказка). 4. Беларуская пісьменніца і грамадская дзеячка. Пісала вершы, апавяданні. Аўтар успамінаў пра М. Багдановіча, У. Галубка. 7. Ласкавы зварот маці да сваёй дачкі. 8. Жанчына, якая жыве паблізу, побач з кім-небудзь. 9. Рака, прыток ракі Бярэзіны (басейн Дняпра). 11. Любіцель і знаток далікатных страў. 12. Выдатная беларуская паэтэса. Аўтар кнігі ўспамінаў "Споведзь". 13. Разнавіднасць, тып. 15. Дзень радасці і ўрачыстасці з нагоды чаго-небудзь. 20. Дробны селядзец. 21. Прыгожая чырвоная кветка на доўгім сцябле. 23. Вялікі майстар, выдатны спецыяліст. 25. Музычная нота. 26. Пачатак дня. 27. "Муж" пеўчай птушкі канарэйкі. 28. Старадаўняя назва літары "а". 30. Глыбокі, зарослы роў. 31. Аповесць рускага пісьменніка І. Тургенева. 33. Усход. 37. Горад у Польшчы. 38. Даўняя назва Крымскага паўвострава. 39. Забалочанае кустоў'е. 41. Што-небудзь прывабнае, спакусліваe (пераноснае). 42. Жыхарка адной з сярэднеазіяцкіх краін. 43. Імя няні вялікага рускага паэта А. Пушкіна. 44. Восеньская садовая кветка.*

***ПА ДУГАХ:***

*15. Плача, як дзіця, а жыве ў лесе (загадка). 16. Пасаджаныя ўздоўж ці вакол чаго-небудзь дрэвы, расліны. 17. У англамоўных краінах — ветлівы зварот да дзяўчыны. 18. Муж — Ян, жонка — Яніна, муж ... — жонка Анісся. 19. Фасон спадніцы, папулярны сярод дзяўчат з надыходам цёплага надвор'я. 20. Як клічуць вядомую расійскую спявачку Алеграву хатнія і блізкія сябры?*

***ПА ВЕРТЫКАЛІ:***

*1. Даўні звычай вясковых дзяўчат збірацца восенскімі і зімовымі вечарамі з работай у адной хаце. 2. Рака, прыток Нёмана. 3. Папулярны хіт вядомай расійскай поп-групы "Любэ". 4. Імя галоўнай гераіні п'есы расійскага пісьменніка М. Горкага. 5. Своеасаблівы прынцып будовы мелодыі, характэрны для старадаўніх царкоўных спеваў. 6. Комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў разам з дваром, агародам і садам. 10. Звярок, шкоднік збожжавых злакаў і агародных раслін. 13. Вядомая беларуская паэтэса. Аўтар верша "Ручнікі". Верш пакладзены на музыку М. Пятрэнкам і стаў папулярнай песняй. 14. Сусветна вядомая карціна мастака Рэмбранта. 19. Малайзійская багіня зямлі і ўрадлівасці, маці багоў. 21. Самая папулярная актрыса ЗША сярэдзіны XX стагоддзя. Здымалася ў фільмах "Ніягара", "У джазе толькі дзяўчаты". 22. Мера вагі каштоўных камянёў. 24. Усходні музычны інструмент. 25. У заходнееўрапейскіх казках — чараўніца. 29. Імя вядомай расійскай спявачкі Вайкуле. 32. Даўні народны звычай сумеснага карыстання пашай, сенажаццю, пчоламі... 34. Пайшоў у прочкі — застаўся без ... (прыказка). 35. Імя жонкі экс-прэзідэнта ЗША Біла Клінтана. 36. Трагедыя англійскага драматурга У. Шэкспіра. 39. Балет беларускага кампазітара Я. Глебава. 40. Цудоўная садовая кветка з прыемным пахам. Букет гэтых кветак прыемна атрымаць кожнай жанчыне ад свайго каханага.*



# КАНТАКТЫ І ДЫЯЛОГІ

Весткі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў № 53

**Прэзентацыя**

## Новае выданне асацыяцыі

ДЫЯСПАРА
КУЛЬТУРАЛОГІЯ
ГІСТОРЫЯ




Такую назву мае першы зборнік матэрыялаў IV Міжнароднага кангрэсу беларусістаў "Беларуская культура ў кантэксце культур еўрапейскіх краін", выдадзены ў серыі "Беларусіка-Albaruthenica" пад нумарам 28. З'явіўся ён пад грыфамі Грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў", Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Выдавецкі ж грыф — рэдакцыі газеты "Голас Радзімы". Тыраж зборніка — 300 экземпляраў. Частка іх пойдзе аўтарам і суполкам асацыяцыі, частка — вядучым бібліятэкам краіны для міжнароднага кнігаабмену.

Усяго ў зборніку прадстаўлены 60 аўтараў з Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны. Кніга дзеліцца на тры тэматычныя часткі. Зрэшты, падзел гэты ў многім умоўны. Праблемы дыяспары, культуралогіі і гісторыі настолькі цесна звязаны, што ледзь не ў кожным артыкуле можна знайсці багата звестак, якія датычацца і "суседняй"тэматыкі.

Раздзел "Дыяспара" адкрываецца тэкстамі дакладаў "Дыяспара — працяг нацыі ў свеце" дацэнта БДУ Анатоля Сіроцкага, "Інтэграцыя беларусаў Латвіі на аснове этнічнай кансалідацыі" члена-карэспандэнта Латвійскай акадэміі навук Ілгі Апіне, "Беларуская дыяспара — еўрапейскай навуцы" кандыдата фізіка-матэматычных навук Вольгі Гапоненкі з НАНБ. Затым у абмеркаванне праблем развіцця беларускай дыяспары ўключыліся Чэслаў Сэнюх (Варшава), Алесь Чайчыц (Масква), Аляксандр Ціхаміраў (Мінск), Алег Рудакоў (Іркуцк), Мікола Нікалаеў (Санкт-Пецярбург), Мікола Чабан (Днепрапятроўск), Мікалай Трус (Мінск), Вольга Зубко (Вінніца) і Віктар Скорабагатаў (Мінск).

Тры першыя тэксты ў раздзеле "Культуралогія" — гэта справаздачны даклад, адрасаваны кангрэсу, "Пашырэнне беларускай культуры ў свеце: Здабыткі і задачы Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў" былога старшыні, а цяпер ганаровага старшыні ГА "МАБ" Адама Мальдзіса.

У раздзеле "Гісторыя" вылучаецца сваім новым, у многім сенсацыйным фактычным матэрыялам даклад Монікі Банькоўскі (Швейцарыя) "Утопія пад знакам Марса: "Беларусь і яе значэнне для Еўропы" Канстанціна Рэгеля (1942)". Аказваецца, нават ва ўмовах нацысцкай Германіі раздаўся ў друку голас у абарону самабытнасці беларускага народа, яго права на "развіццё і дабрабыт".

Зарубежная беларусістыка прадстаўлена ў раздзеле "Гісторыя" таксама прозвішчамі Даруса Вілімаса і Кястуціса Гудмантаса (Літва), Алены Глагоўскай і Кшыштафа Лятаўца (Польшча).

Другую кнігу матэрыялаў кангрэсу мяркуецца прысвяціць літаратуразнаўству і этналогіі, трэцюю — мовазнаўству. Цяпер гэтыя зборнікі рэдагуюцца.

**Нас наведалі...**

КОСІНО ГО, японскі беларусіст. Цяпер ён працуе над параўнальным даследаваннем твораў беларускай і японскай літаратур, прысвечаным вынікам ядзерных катаклізмаў (Чарнобыль, Хірасіма і Нагасакі). Кіраўніцтва асацыяцыі дапамагло госцю ўстанавіць кантакты і правесці сустрэчы з паэтам Міколам Мятліцкім і празаікам Васілём Якавенкам, якіх хвалюе чарнобыльская тэматыка.

Акрамя ўсяго іншага, Косіно Го пачаў займацца перакладамі з беларускай мовы на японскую. Асабліва яго цікавіць творчасць Уладзіміра Караткевіча. Для таго, каб атрымаць аўтарскія правы на пераклады яго твораў, госць сустрэўся з пляменніцай пісьменніка Аленай Кучкоўскай.

...Алена ГЛАГОЎСКАЯ і Гражына ХАРЫТАНЮК, беларусісткі з Польшчы, якія выкладаюць ва Універсітэце ў Беластоку. У час сустрэчы абмяркоўваліся пытанні навуковых кантактаў, удакладнення бібліяграфічных крыніц.

Алена Глагоўская перадала ў бібліятэку ГА "МАБ" сваю супольную з беластоцкім даследчыкам Вячаславам Харужым працу — выданне "Лістоў" беларускага этнографа і пісьменніка Мар'яна Пецюкевіча, які ў свой час быў дырэктарам Віленскага беларускага музея, а апошнія гады жыцця правёў у Торуні (Польшча). Датаваны яны 1956-1982 гадамі. Сярод адрасатаў — такія знакамітыя асобы, як прафесар Марыя Знамяроўская-Пруфер, польскія даследчыкі гісторыі Беларусі Аляксандра Бергман, Мацей Канапацкі, Ежы Туронак, а таксама рэдакцыя беластоцкай газеты "Ніва".

**Юбілеі**

## Колькі віншавальных слоў пра маю літоўскую сааўтарку

***Пачынаючы пісаць артыкул пра шматгадовага прэзідэнта Літоўскай асацыяцыі беларусістаў Альму Лапінскене, я найперш з сентыментам згадаў 60-70-ыя гады мінулага стагоддзя, калі завязалася плённая дружба (у дакументах мы яе называлі навуковым супрацоўніцтвам і нават спаборніцтвам) паміж Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і Інстытутам літоўскай літаратуры, мовы і фальклору АН Літоўскай ССР. З сентыментам — таму што цяпер беларускія і літоўскія літаратуразнаўцы ўжо амаль не сустракаюцца і нават цьмяна ведаюць, хто над чым працуе. Хіба што Альма Лапінскене, прыязджаючы на кангрэс беларусістаў ці якую канферэнцыю, прыхопіць з сабой працы сваіх калег і павязе ў падарунак нашы кнігі...***

Тады ж, памятаецца, мы супрацоўнічалі (і тут я без лішняй сціпласці прызнаюся, што пачалося ўсё па маёй ініцыятыве) не дзеля справаздачнай "птушачкі", а дзеля справы. Узаемна ўдзельнічалі ў навуковых канферэнцыях і выданнях, апаніравалі і рэцэнзавалі працы. Разам папераменна адпачывалі: над Свіцяззю і ў Тракаі, над Нараччу і ў Каўнасе.

І вось неяк дырэктар літоўскага інстытута акадэмік Костас Корсакас, намякаючы на балцкае паходжанне майго прозвішча, запрапанаваў мне самому паказаць прыклад і заняцца даследаваннем беларуска-літоўскіх літаратурных повязей, пачынаючы ад Францішка Скарыны і Марцінаса Мажвідаса і канчаючы Максімам Танкам і Эдуардасам Межалайцісам. Я пагадзіўся (бо ў нашым інстытуце не было іншай адпаведнай асобы), але тут жа выказаў засцярогу, што ўсе стагоддзі аднаму даследаваць цяжка і што патрэбны партнёр з літоўскага боку.

Неўзабаве тагачасны сакратар партарганізацыі літоўскага інстытута Ванда Бараўскене (пазней — Місявічэне), якая займалася супастаўленнем літоўскіх і беларускіх жніўных песень, паведаміла мне, што новай супрацоўніцы Альме Лапінскене прапанавалі напісаць кандыдацкую дысертацыю пра літоўска-беларускае літаратурнае ўзаемадзеянне савецкага часу (з 1940 года). Так у мяне з'явіўся сааўтар. Мы размежавалі тэматыку: мне дасталася старажытная частка, "нашаніўскі" перыяд, літоўская секцыя Саюза пісьменнікаў БССР, кантакты ў даваенных Вільні і Каўнасе, маёй жа "візаві" — ваеннае ліхалецце, даволі шматлікія пасляваенныя пераклады і сустрэчы. Былі і спрэчкі, часам працяглыя (да прыкладу, пра характар дзяржаўнай мовы ў Вялікім княстве Літоўскім), але былі і знаходкі (беларускі верш літоўскага класіка Людаса Гіры), навуковыя адкрыцці.

У выніку нарадзіліся дзве супольныя кнігі: мінскі варыянт называўся "Перазовы сяброўскіх галасоў" (1988), а адрозны літоўскі варыянт — "Літоўска-беларускія літаратурныя сувязі" (1989), нямала супольных часопісных і энцыклапедычных публікацый. Альма Лапінскене так увайшла ў тэму, так захапілася беларускай літаратурай, што не толькі абараніла дысертацыю па тэме, але стала добра гаварыць на беларускай мове (памятаецца, яе выступленне цёпла сустрэлі на ўрачыстым вечары, прысвечаным стагоддзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча).

А дзе любоў да літаратуры, дзе веданне мовы — там і пераклады. Асабліва захапілася пані Альма творчасцю Уладзіміра Караткевіча, некалькі разоў сустракалася з ім. Неўзабаве выйшлі па-літоўску яго "Зямля пад белымі крыламі" і "Дзікае паляванне караля Стаха". А таксама "Крыж міласэрнасці" Валянціны Коўтун, апавяданні іншых аўтараў.

І таму калі ў 1991 годзе паўстала пытанне, хто арганізуе і ўзначаліць Літоўскую асацыяцыю беларусістаў, іншых думак узнікнуць не магло: толькі Альма Лапінскене. Літоўскі ўстаноўчы сход адбыўся раней, чым устаноўчы кангрэс. Такім чынам, выйшла, што літоўская нацыянальная асацыяцыя выступіла адной з сузаснавальніц асацыяцыі міжнароднай. Дзесяцігоддзе сваёй арганізацыі літоўскія калегі адзначылі міжнароднай канферэнцыяй, на якой мне пашчасціла прысутнічаць і адзначыць у сваім выступленні яе высокі ўзровень і разнастайнасць тэматыкі.

Усяго за час свайго існавання Літоўская асацыяцыя беларусістаў правяла звыш 20 канферэнцый, "круглых сталоў" і вечароў. Іх ініцыятарам і арганізатарам заўсёды выступала Альма Лапінскене. Цяпер у арганізацыі больш за 25 сяброў — акадэмічных работнікаў, перакладчыкаў, выкладчыкаў кафедры беларускай культуры Вільнюскага дзяржпедуніверсітэта і беларускай сярэдняй школы імя Францішка Скарыны. Сваім дэлегатам на міжнародныя кангрэсы яны нязменна вылучалі Альму Лапінскене, а яна заўсёды выступала з грунтоўнымі дакладамі.

Беларусістыка, як і літуаністычныя працы пані Лапінскене, садзейнічалі стварэнню і ўзмацненню яе навуковага і грамадскага іміджу. Раіцца з ёю моладзь, раяцца супрацоўнікі Пасольства Беларусі ў Літве.

У заключэнне застаецца пажадаць маёй сааўтарцы, дачцы незаслужана пакараных сялян з вёскі Паюрышкю Шылуцкага краю, доктару філалогіі Альме Лапінскене пасля яе 70-гадовага юбілею заставацца такой жа актыўнай і бадзёрай, нядоўга заседжвацца ў сваёй дачкі і ўнучкі (а можа ўжо і ўнукаў) у Берліне, памятаць, што яна патрэбна ў Вільнюсе і Мінску дзеля беларусікі. А яшчэ, як у такіх выпадках співаюць літоўцы, — ilgu metu, доўгіх год!

**Адам МАЛЬДЗІС.**

**Да ведама**

***Як мы пісалі, 2006 год абвешчаны ў свеце годам Ежы Гедройца. У сувязі з гэтым ГА "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў" і Польскі інстытут у Мінску арганізуюць сёлета (канец мая — пачатак чэрвеня) у Мінску навуковую канферэнцыю, прысвечаную 100-годдзю гэтага гуманіста. На ёй будзе разглядацца канцэпцыя Е. Гедройца дзяржаўнай незалежнасці Беларусі, Літвы і Украіны, рэалізацыя гэтай канцэпцыі ў канцы мінулага і пачатку бягучага стагоддзя.***

***Заяўкі могуць падавацца як на адрас ГА "МАБ", так і Польскага інстытута (Мінск-50, вул. Валадарскага, 6).***

**Збіральнікі**

## Даследчыцкае і тэксталагічнае асэнсаванне спадчыны



Споўнілася 75 гадоў Міхасю Іосіфавічу Мушынскаму, літаратуразнаўцу, тэкстолагу, члену-карэспандэнту Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі, доктару філалагічных навук, прафесару, сябру Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Навуковыя інтарэсы Міхася Мушынскага звязаны з гісторыяй беларускай літаратуры, тэксталогіяй, літаратурнай крытыкай. Ён стаў вядомым коласазнаўцам.

Пераасэнсаванне гісторыка-літаратурнага працэсу XX стагоддзя ў даследаваннях М. Мушынскага дало новае бачанне твораў М. Зарэцкага, Я. Коласа, К. Чорнага, М. Гарэцкага і іншых.

Міхась Мушынскі — аўтар каля трохсот навуковых прац, васьмі манаграфій.

Днямі ў Інстытуце літаратуры адбылося віншаванне М. Мушынскага. Ён пачуў многа добразычлівых слоў, бо і сам іх заўсёды знаходзіць для сваіх супрацоўнікаў.

**Таццяна МАХНАЧ,**
**супрацоўніца Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі.**

НА ЗДЫМКУ: Міхась МУШЫНСКІ, (крайні злева), Янка БРЫЛЬ і Тарэза ГОЛУБ.

**Радкі з лістоў**

### Рыга

*Беларусы Латвіі становяцца ўсё больш актыўнымі. Хоць і спрачаюцца, але шчыруюць дзеля развіцця сваёй культуры. Вось і мяне папрасілі перакласці з беларускай на латышскую мову атрыманую на кангрэсе беларусістаў кніжку мінскага даследчыка Уладзіміра Тугая пра латышскую дыяспару ў Беларусі. Вядома, папярэдняя кіраўніца Латвійскай асацыяцыі беларусістаў Мірдза Абала выканала б гэтую працу лепей, чым я. Але я ўжо абзавялася добрым беларуска-латышскім слоўнікам. Да таго ж абяцаюць мяне кансультаваць сябры-беларусы.*

**Ілга АПІНЕ,**
**сябар-карэспандэнт Латвійскай акадэміі навук.**

### Ольштын (Польшча)

*З прыемнасцю паведамляю, што ў мінулым годзе ў Польшчы з'явіўся падрыхтаваны мной III том "Энцыклапедыі Віленскай зямлі", прысвечаны мастацтву. Няма патрэбы тлумачыць, што ў гістарычны Віленскі край уваходзіла таксама частка заходнебеларускіх зямель. Дарэчы, гэта таксама трактуе альманах "Куфэрак Віленшчыны", які выходзіць у Маладзечне і пра які пісаў "Голас Радзімы". Мне хацелася б устанавіць з гэтым выданнем кантакт, набыць яго камплект летам гэтага года, калі выберуся ў Беларусь.*

*Працягваю пісаць свае "Падарожжы па Беларусі". Працую таксама над кнігай "Палякі Літвы" (1945-2005). Спяшаюся, таму што варшаўскія выдаўцы збіраюцца зрабіць у Вільні яе прэзентацыю ўжо ў лістападзе бягучага года.*

**Мечыслаў ЯЦКЕВІЧ,**
**прафесар Вармінска-Мазурскага універсітэта.**

*Еленя Гура, Польшча*

# Вузельчыкі памяці Іаланты Вільконьскай

***На пачатку гэтага года мы атрымалі ліст ад Іаланты Вільконьскай з Польшчы, дачкі Кіры Святаполк-Мірскай і ўнучкі Івана Мікалаевіча Святаполк-Мірскага — брата апошняга ўладальніка Мірскага замка ("ГР" ад 22 красавіка 2004 года і ад 23 чэрвеня 2005 года). Яна дапамагае стварэнню экспазіцыі Мірскага замка, наведвае Беларусь штогод. Маючы ўжо сталы ўзрост, тым не менш з захапленнем займаецца фатаграфіяй, уваходзіць у Варшаўскае (з 1983 года) і Еленегурскае (з 1988 года) фатаграфічныя таварыствы, вывучае гісторыю свайго роду і вядзе перапіску з Марыяй Святаполк-Мірскай, якая жыве ў Лондане ("ГР" ад 11 жніўня 2005 года). Час ад часу піша і ў нашу газету. Нам здаецца, што навіна, якой пані Іаланта падзялілася з намі ў апошнім сваім лісце, вартая ўвагі чытачоў.***



“Шмат часу я губляю на хатнія справы, але фатаграфую, шлю свае работы на розныя конкурсы і выставы, разам з сябрамі нашага Еленегурскага клуба выстаўляю іх у нашай галерэі. Выставы нашы арганізуюцца нават у Чэхіі, бо сябруем з адным чэшскім фотаклубам. З намі супрацоўнічае таварыства “Кантакт-рэгіён Ныса” (Ныса — гэта рака, якая цячэ ў Германіі і Чэхіі). Дарэчы, якраз зараз мае фатаграфіі Мірскага замка выстаўлены на выставе, якая потым будзе дэманстравацца ў некалькіх месцах. У каталогу гэтай выставы ёсць і мая работа “Рыбаловы на захадзе сонца”, на якой удалечыні відаць замак у Міры. Калі гляджу на гэту і іншыя фатаграфіі, зробленыя ў Міры, успамінаю, якая шчаслівая была, знаходзячыся ў гэтым месцы, шчаслівая, што магла дыхаць гэтым паветрам і захапляцца прыгажосцю замка і яго наваколля.

Часам пішу маленькія артыкулы ў наш штомесячны часопіс. Апошняя мая публікацыя прысвечана вялікай выставе “Варшава. Восень 1939”. Паколькі я таксама перажыла той трагічны час разам з бацькамі, то напісала падрабязныя ўспаміны. Давала інтэрв'ю для вроцлаўскай газеты “Слова польскае”. Справа ў тым, што мой бацька Томаш Вільконьскі быў парламентарыем у Сейме. А ў верасні 2005 года адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў нашым Сейме ў памяць тых парламентарыяў, што загінулі ў час Другой сусветнай вайны, куды я была запрошана. Кожны раз, калі па тэлебачанні паказваюць інтэрв'ю з галоўнай залы Сейма, гэту дошку відаць, яна ярка асветлена. І на ёй — прозвішча майго бацькі! Для мяне такая вялікая радасць, што імя майго дарагога таты не будзе забыта ніколі, яно навечна ўпісана ў гісторыю Польшчы! А я ж нават не ведаю, дзе ён пахаваны.

На пачатку вайны наша сям'я жыла ў Лодзі, дзе было шмат фабрык нямецкіх фабрыкантаў, на адной з іх працаваў мой тата. Калі пачалася вайна, немцы не бамбардзіравалі горад — хацелі захаваць гэтыя будынкі, толькі пужалі жыхароў налётамі. Самалёты лятялі нізка, мама вельмі баялася іх, і праз тры дні мы збеглі ў Варшаву, спадзеючыся, што сталіцу не будуць бамбіць.



Хачу ўзгадаць адзін эпізод. Мы паехалі ў вялікім аўтамабілі з шафёрам і звярнулі на дарогу, дзе не было пешых людзей, што адступалі. Раптам над намі ляціць самалёт і зніжаецца. Мама загадала спыніцца, выскачыла і стала махаць белым платком. Тата страшэнна спужаўся за яе. Але самалёт адляцеў, і мы спакойна дабраліся да Варшавы. Мама нас уратавала. Вось такая яна была храбрая, знаходлівая.

У Варшаве мы поўнасцю зазналі, што такое налёты і бамбардзіроўкі. Тата па загаду мясцовых улад пакінуў горад. Мы спачатку жылі ў гатэлі, а калі яго зачынілі, то бадзяліся з кватэры на кватэру. Было і такое, што толькі мы выходзілі з дома, дзе жылі, як туды трапляла бомба. Памятаю, як стагнаў параненны конь, якога потым з'елі жыхары нашага дома, якія галадалі, у тым ліку і мы. Самае страшнае было — гэта невядомасць, дзе бацька, што будзе з намі. Варшава капітуліравала, і мы бачылі, як германскія войскі ўступалі ў горад. Людзі плакалі. Вярнуўся і знайшоў нас тата. Калі ён прыйшоў, я не пазнала яго — з барадой, у падраным брудным адзенні. Ён дайшоў да расійскай граніцы і вярнуўся назад пехатой. Тады мы паехалі назад у Лодзь. Нашу кватэру занялі нямецкія афіцэры. 9 лістапада 1939 года фашысты арыштавалі тату ў нас дома і пасадзілі ў лагер на тэрыторыі фабрыкі ў Радагошчы непадалёк ад Лодзі. Побач быў лес, дзе фашысты расстрэльвалі ваеннапалонных. Адступаючы, яны спалілі фабрыку і ўсіх, хто быў у лагеры на яе тэрыторыі. А нас усю вайну хавалі знаёмыя людзі і сябры таты і мамы. У Варшаву мы з мамай пераехалі ў 50-х гадах. І толькі пасля вайны даведаліся, што тату расстралялі ў 1939 годзе. Я сімвалічна абазначыла татава прозвішча на магіле мамы ў Варшаве, а з таго месца, дзе быў лагер і загінуў тата, прывезла жменьку зямлі...

Дадам яшчэ, што выдавецтва Сейма падрыхтавала кніжку з біяграфіямі і фотаздымкамі былых парламентарыяў, якія загінулі ў вайну. Як я была здзіўлена, калі ўбачыла там фота і прозвішча князя Казімежа Святаполк-Мірскага! Ён таксама быў парламентарыем, толькі пазней за тату. Загінуў у лагеры Аушвіц у 1941 годзе. Я пра яго ведала і раней, бо на ваенных могілках у Варшаве бачыла надмагілле двух яго сыноў — Кшыштафа і Міхаіла, якія загінулі падчас Варшаўскага паўстання ва ўзросце 18 і 19 гадоў. Яны мелі ваенныя чыны і ордэны за мужнасць. Цікава, што Кшыштаф быў герба “Бялыня” (назва герба маёй мамы), а Міхаіл меў герб “Орліч”.

Усе свае публікацыі і фатаграфіі, звесткі, якія датычацца нашага роду, дасылаю Марыі ў Лондан, а яна мне — свае інтэрв'ю і здымкі. Дзелімся ўспамінамі пра нашы сустрэчы ў Польшчы і ў Беларусі і марым зноў наведаць Мірскі замак. Як дзіўна пераплятаюцца лёсы людскія! І мне дадзена лёсам разблытаць гэты маток у маім радаводзе”.

**Падрыхтавала Рэгіна ГАМЗОВІЧ.**

На здымках Іаланты ВІЛЬКОНЬСКАЙ, якія яна даслала нам у рэдакцыю: “Гэта я на балконе 11-га паверха — удалечыні горы Карканоша, частка Судзетаў, у маіх руках вялізная каробка цукерак з малюнкам Мірскага замка, якую я атрымала ў падарунак, ад'язджаючы з Міра ў маі 2005 года. Зараз я гляджу на гэты малюнак, як на самы дарагі ўспамін і мару пабываць там зноў”, — напісала пані Іаланта ў сваім лісце; у Польскім Сейме ля мемарыяльнай дошкі: сярод парламетарыяў, якія загінулі ў час Другой сусветнай вайны, пазначана імя яе бацькі Томаша Вільконьскага і Казімежа Святаполк-Мірскага; фотаздымак, зроблены ў Міры і змешчаны ў каталогу выставы, якая зараз дэманструецца ў Еленей Гуры, дзе жыве пані Іаланта; вроцлаўская газета “Слова польскае” з інтэрв'ю пані Вільконьскай і яе фота.

*Украіна, Севастопаль*

З вялікім хваляваннем чыталі матэрыял “Незабыўны вальс...” аб нашым таварыстве ў № 3-4 “Голасу Радзімы”. Вельмі ўдзячны рэдакцыі газеты за ўвагу да нас. Пры такой падтрымцы хочацца працаваць яшчэ больш і лепш. Калі таварыства “Беларусь” пачало існаваць у Севастопалі, на агульным сходзе мы дамовіліся дзейнічаць так, каб нашай радзіме не было сорамна за нас. І кожны чарговы матэрыял на старонках паважанай газеты — гэта магчымасць нашай справаздачы перад землякамі.

Жыццё ідзе наперад, і няма часу на адпачынак. Адразу пасля вяртання са Слуцка ўдзельнічалі ў крымскім фестывалі беларускай песні, які праходзіў у вёсцы Шырокае Сімферопальскага раёна, а таксама ў фестывалі народнай песні ў пасёлку Сахарная Галоўка, ва ўкраінскіх “Вечарніцах”, мерапрыемствах, прысвечаных 50-годдзю гібелі лінкора “Новасібірск”. Адначасова рыхтаваліся да правядзення традыцыйных беларускіх зімовых свят.

Жадаем усім нашым суайчыннікам, калектыву газеты “Голас Радзімы” натхнення, поспехаў у працы, грамадскім і асабістым жыцці.

Будзем разам!

Ад імя праўлення Севастопальскага гарадскога аддзялення Усеўкраінскага аб'яднання “Беларусь” старшыня

**Ала ГАРЭЛІКАВА.**

*Польшча*

**Людміла МАКСІМЮК:**

## “Натхняюць “Праменьчыкі”



Я працую ў комплексе школ у Чыжах (гэта каля Гайнаўкі), выкладаю рускую і польскую мову, кірую самадзейным калектывам “Праменьчыкі”. Гэта ўжо мой чацвёрты калектыў. За два гады існавання яны парадавалі мяне другім месцам у 2004 годзе на конкурсе беларускай песні, а ў 2005-м узялі першае месца. Спяваюць дзеці і сучасныя песні, і абрадавыя з беларускага фальклору. У школе, дзе я працую, выкладаецца беларуская мова, яе вывучаюць амаль усе вучні.

Сама я аматар спеваў, музычнай адукацыі не маю, спяваю ў ансамблі песні і танца “Васілёчкі” ў Бельску-Падляскім і фальклорным калектыве “Чыжавяне”. Мой муж-нябожчык, якога я страціла ў 2005 годзе, меў добры прыгожы голас, спяваў у мужчынскім ансамблі “Куранты” ў Бельску.

Летась на курсах у таварыстве “Радзіма” ў Мінску я была ўпершыню. Папоўніла рэпертуар, абмянялася вопытам работы з калегамі, якія прыехалі з іншых краін. Мы пасябравалі, многія вядуць зараз перапіску адзін з адным.

**Фота Сяргея ДЗЕНІСЕНКІ.**

*Вось ужо чацвёрты год, як існуе ў Беларусі маладзёжны клуб "Літаратурнае прадмесце". Кіруе ім пісьменніца Людміла Рублеўская. Яна збірае юнакоў і дзяўчат раз у тыдзень. На пасяджэннях чытаюцца вершы, абмяркоўваецца творчасць маладых і вядомых аўтараў, наладжваюцца дыскусіі на літаратурныя і калялітаратурныя тэмы. Маладыя творцы сустракаюцца таксама з вядомымі пісьменнікамі, выступаюць у школах, бібліятэках, друкуюцца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах, калектыўных зборніках, альманахах, выдаюць уласныя кнігі. За час існавання клуба іх з'явілася каля дваццаці. Многія сябры суполкі сталі членамі пісьменніцкіх саюзаў. Ёсць у маладых творцаў і ўласныя святы, якія ўжо сталі традыцыйнымі: "Каляды ў Цёткі" (называюцца так з-за месца правядзення: мінская бібліятэка імя Цёткі), Дзень закаханых па-беларуску (адзначаецца 14 лютага ў Доме-музеі Максіма Багдановіча), Літаратурныя дзяды (ладзяцца на Лысай Гары пад Мінскам)... А яшчэ літаратурная моладзь вельмі любіць падарожнічаць па вядомых мясцінах Беларусі (Нарач, Баранавічы, Плябань, Дзявочая Гара, Лысая Гара...). А вандроўкі, як вядома, натхняюць на новыя творы. З імі наша газета мае намер знаёміць сваіх чытачоў у новай рубрыцы. Паколькі зараз вясна, то пачынаем з вершаў некаторых паэтэс суполкі маладых творцаў "Літаратурнае прадмесце", бо менавіта жанчына атаясамліваецца з вясной, з нараджэннем новага жыцця.*

**Зміцер АРЦЮХ.**

# Прыгажуні
## "Літаратурнага прадмесця"

**Аксана СПРЫНЧАН**



***

Калі ў акно глядзіць
Мядзведзіца Малая,
мы каву п'ём і толькі размаўляем
пра слынныя санеты ад Шэкспіра,
і пераклады іх Дубоўкі, Пастарнака.
У іх шукаем зоркі мы і знічкі,
і паміж іх знікае кавы
шчаслівы сёмы кубак.
Нарэшце я ў талерку выліваю гушчу,
па ёй пішу іголкаю яловай,
што засталася з навагодніх святаў:
— Каханы мой,
цяпер акно зашторым,
бо сёння там
цікаўная Малая...

***

Пацалаваць вясной цябе,
калі сышлі ад нас снягі,
і адчуваць сябе чужой,
не, не табе зусім —
сабе
і раздзіраць сваю душу
радкамі словаў закаханых,
ды не ў цябе —
у прыгажосць
сустрэч, аголеных чаканнем...
Пацалаваць вясной цябе,
калі сышлі ад нас снягі,
і адчуваць сябе чужою,
вужакаю, якую ты
ад страху зблытаў
са змяёю...

***

П'ю каву з украінскім мёдам,
сланечнікавым, сонечным,
і цябе ўяўляю
трошкі сонным,
але болей — сонечным...
І раенне думак,
з табою звязаных,
адбываецца
на галінцы Сусветнага Дрэва,
яны разам збіваюцца,
і вось-вось пабудуюць гняздо сабе
новае, лепшае...
Джаліць зноўку мяне
пчала беларускае рэўнасці.

***

Кроплі зрываюцца з даху,
нібыта людзі...
Людзі зрываюцца з даху,
нібыта птушкі...
Птушкі зрываюцца з даху,
нібыта неба...
Неба зрываецца з даху,
нібыта кветкі...
Кветкі зрываюцца ў бездань адчаю
з апошнім пялёсткам —
"Не кахае"!

***

**Таццяна БУДОВІЧ**

***

Чагосьці ў Бога просяць людзі.
Але цябе няма са мной,
і я нясу ў сабе спакой.
Бо мне ўсё роўна, што там будзе:

Жыццё, каханне, адзінота
ці смерць у нейкай барацьбе,
калі са мной няма цябе,
мне ўсё адно, што будзе потым.

І ўсё адно мне, з кім і дзе ты,
калі цябе са мной няма.
І я не ведаю сама,
ці варта шкадаваць аб гэтым.

***

Без цябе сумам поўняцца дні.
Кожны з іх, як няпрошаны госць.
І не верыцца нават, што ёсць
недзе іншых сусветаў агні.

*НОЧ*

Як хутка месяц адплывае,
хаваецца за дом.
І больш да нас не зазірае
ён залатым святлом.

А ноч без месяца сляпая
сціхае за акном.
І асцярожна спавівае
усё наваколле сном.

...Мая туга ізноў пільнуе
тваіх вачэй тугу.
Адно аднога не ўратуем —
суцешым хоць крыху.

... Твая далонь беспамылкова
маю далонь знайшла.
Ізноў сагрэюць нас не словы —
ілюзія цяпла...

***

У пошуках вечнай любові сляпое карэнне
сабою пранізвае ўпарта наскрозь сутарэнні.

А мы з табой разам не будзем ніколі, ніколі
пляча да пляча бараніць нашу бедную волю.

Нам суджана з іншымі побач і жыць, і памерці.
І быць, як сляпое карэнне, да самае смерці.

***

Твая нешматслоўнасць як нельга дарэчы.
Без слоў разумееш патрэбныя рэчы.

Амаль што на небе і побач з табой.
І спіны ўздымаюць скала за скалой.

І цені аблокаў на поўнач сплываюць.
Жывеш і не ведаеш: гэта бывае.

А сонца сцякае на веі твае.
Прымружваеш вочы і свет растае.

І я з ім знікаю. Зямлі прыцягненне
не дасць мне падумаць: спыніся, імгненне!

А толькі запомніць: вачэй хрызаліт.
І сонца, што ўжо не пакіне зеніт.

**Таццяна ПРАТАСЕВІЧ**



***

Так плакалі дрэвы... За што і пра што?
Каціліся слёзы на спелыя травы.
Аж сонца за чорную хмару зайшло,
І гнуліся долу буйныя муравы.
Мо нехта навечна застаўся адзін?
Так плакалі дрэвы... Застылы бурштын.

Вы — камета мая.
Прыймчалі, хвастом апаліўшы,
Падарыўшы каханне і зорных часцінак святло.

Ды не ведала я,
Што, любоўю жыццё асвяціўшы,
Не забуду спаткання, якое б жыццё ні было.

Вы — камета мая,
А перыяд мне ваш невядомы.
І шукаю дарма ў цёмным небе знаёмы агонь.

Не пакутую я
А чакаю, чакаю да стомы,
Як празрысты прамень ваш ласкава сагрэе далонь.

**Падрабязнасці**

# Упоравень



**Ніна Мацяш 40 гадоў таму закончыла Мінскі педінстытут замежных моў (цяпер — Лінгвістычны універсітэт). За гэты прамежак часу ў яе кайстры — вялікі творчы набытак. Заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова Ніна Іосіфаўна мае паўтара дзесятка паэтычных зборнікаў, некалькі кніг і п'ес для дзяцей і добры тузін перакладных выданняў.**

У сціплым пераліку — "Планета людзей" і "Маленькі прынц" А. дэ Сент-Экзюперы", "Маруся Чурай" Ліны Кастэнка, "Багаславі сустрэчу мне..." (Выбраная лірыка Плеяды ў серыі "Паэзія народаў свету"), "Перабіраю самацветы..." (Выбраныя пераклады з еўрапейскай паэзіі). Тыя "самацветы" паказалі, якімі мовамі валодае Ніна Мацяш: сербскай, балгарскай, сербска-харвацкай, нямецкай, французскай, украінскай, англійскай... Вядома ж, перакладае і з расійскай. А вось у той еўрапейскай перабіранцы польскія аўтары прадстаўлены такія: М. Канапніцка, М. Паўлікоўска-Яснажэўска, Г. Такарска, Т. Хрусцялеўскі, М. Канановіч, Ю. Славацкі, Я. Гушча, У. Бранеўскі. У дачкі капрала Войска Польскага мова нашых суседзей-суродзічаў была на слыху з дзяцінства. Перакладзеная Нінай Іосіфаўнай кніга Віславы Шымборскай "Свет, варты вяртання" — сімвалічная ў гэтым кантэксце. Прадставіўшы ў 2002 годзе зборнік еўрапейскай лірыкі, Ніна Мацяш вызначыла ў пасляслоўі сваё творчае крэда і ролю духоўнай дыфузіі, якой служыць, каб родны мацярык выглядаў упоравень з "разнамаітым светам". Ніна даводзіць: "...дзе б і калі ні жылі мы, людзі, і як бы вонкава ні розніліся паміж сабою, а ўсе мы насамрэч браты і сёстры з падобнымі зямнымі надзеямі, радасцямі і пакутамі, з аднолькавай прагай шчасця, волі, красы, з памкненнем да ўсяго, што ўзвышае, прасвятляе, утрывальвае дух індывідуума і яго народа".

Уласная творчая мастакоўская вынаходка Ніны Мацяш — пёркаграфія — стала цудоўнай аздобай паэтычнай кнігі Франсуа Жакмэна "Поры года", перакладзенай нашай белаазёрскай няўтомніцай ("Беларускі кнігазбор", 2003). І вось новая сустрэча з Віславай Шымборскай, польскім нобелеўскім лаўрэатам. Зборнік "Хвіля" выдае падвойную радасць: чытаць арыгінал і такі ж натхнёны пераклад (у такім выпадку кажуць: конгеніяльнае ператварэнне; не будзем засцерагацца ад высокіх слоў). Не надта мы ахвотныя на падзяку — творца творцу, беларус беларусу... Кніга "Хвіля" і вучыць выпраменьваць здзіўленне і замілаванне, гадаваць у сэрцы ўдзячнасць і годнасць, жыць, працаваць, уладарыць — упоравень з вышынямі чалавецтва.

І некалькі радкоў узрушэння ад перададзенага мне падарунка:

Ніна Мацяш у перагуках
з нобелеўскай Віславай Шымборскай —
хвіля ў хвілю, упоравень,
словы — у мностве.
Рэч Паспалітая нашых народаў
аздоблена пёркаграфіямі —
рыфмамі Кракава, Белаазёрска.

Зваротны багаж — milczenie roslin.

**Сяргей ПАНІЗНІК.**

**Дэбют**

**Валерыя НЕСЦЕРАВА**



***Лера вучыцца ў 7 "Д" класе сярэдняй школы № 30 горада Мінска. Любіць сваю школу, настаўнікаў, цудоўных аднакласнікаў. З задавальненнем і шмат чытае, захапляецца дызайнам інтэр'ера, нядрэнна ведае камп'ютэр. Любімы прадмет — англійская мова. Вучыцца ў музычнай школе — іграе на фартэпіяна. Яе лепшыя сяброўкі Караліна, Паліна, Оля і Юля. Ёсць у Леры пушысты, вельмі прыгожы і добры кот Рыжы.***

*БЯРОЗКА*

Белы, пушысты, бліскучы
Падае першы снег.
Вецер падзьмуў калючы,
У схованку зайка пабег.

Толькі бярозцы не збегчы —
Бедная ў полі адна,
Сыпле на голыя плечы
Снегам калючым зіма.

Холадна ёй, сіраціне,
Любы мароз сустракаць,
Гнуцца ад ветру ў даліне
Лепшае долі чакаць.

Сняцца бярозцы начамі
Сонейка, лета, спакой,
Ласкавы цёплы дожджык,
Вясёлка над ціхай ракой.

***

Лето в прятки заигралось
И с зимою, и с весной.
Наконец-то отыскалось!
Стала жизнь совсем иной.
Солнце светит ярче света,
Радость, жарко —
У нас лето!

***Ніна САКАЛОВА:***

# "І ў 80 мары збываюцца"

***Час ад часу ў рэдакцыю "Голасу Радзімы" прыходзіць паэтэса і кампазітар Ніна САКАЛОВА, прыносіць словы і ноты сваіх песень. Некаторыя з іх надрукаваны і ў гэтым нумары. У мінулым годзе Ніна Міхайлаўна адзначыла сваё 80-годдзе. З самага дзяцінства яна марыла стаць артысткай. Усё жыццё, і ў цяжкія ваенныя гады, і пераязджаючы разам з мужам-ваеннаслужачым у розныя краіны, яна ўпарта дабівалася мэты. Настаўніцай рускай мовы, а пасля — геаграфіі працавала ў многіх школах, і ў кожнай з іх з'яўляліся гурткі самадзейнасці. Дзеці пад кіраўніцтвам Ніны Міхайлаўны вучыліся спяваць і танцаваць. На сцэне ж артыстка Сакалова з'явілася ў 80-я гады мінулага стагоддзя, калі ўжо пайшла на заслужаны адпачынак. Семнаццаць гадоў Ніна Міхайлаўна праспявала ў хоры "Спадчына", песні ж пачала пісаць з 1996 года, і іх у яе ўжо сорак пяць. На гэтым спыняцца не збіраецца. Нас зацікавіла гэтая энергічная, прывабная жанчына, і мы папрасілі Ніну Міхайлаўну расказаць пра свае творчыя планы, якое месца ў яе жыцці займае песня, і раскрыць таямніцу, як гэта — пісаць песні.***



— Любоў да песні ў мяне з дзяцінства. Нарадзілася на Палессі, у горадзе Ветка Гомельскай вобласці, а там — такая прыгажосць, што нельга не заспяваць: Сож, лугі бяскрайнія. Вельмі прыгожа спявала маці... У школе заўсёды выступала ў самадзейнасці, і ўсе думалі, што я стану артысткай. Сама ж хацела быць або артысткай, або настаўніцай. Тайком напісала ў Саратаўскі тэатральны універсітэт, але месцаў у інтэрнаце для іншагародніх не было, і я паступіла на філалагічны факультэт Ленінградскага універсітэта, вучылася на ўсходнім аддзяленні, вывучала турэцкую мову. Адно маё жаданне споўнілася адразу пасля заканчэння універсітэта — я стала настаўніцай. Замуж выйшла за ваеннага — усё жыццё качавалі, змянілі адзінаццаць месцаў жыхарства. І паўсюль, дзе я ні працавала, арганізоўвала гурткі самадзейнасці, вучыла дзяцей танцаваць. На Радзіму вярнуліся выпадкова: мужа нечакана перавялі ў ваенную часць у Мінск. Апошнім маім месцам працы была сярэдняя школа №105, там я выкладала геаграфію і кіравала гуртком. Дзеці на працягу некалькіх гадоў займалі першыя месцы на гарадскіх конкурсах па самадзейнасці.

Адразу на пенсію ісці было вельмі страшна. Узрадавалася, калі даведалася, што існуе пры Палацы прафсаюзаў хор "Спадчына" (зараз ён разразмяшчаецца ў Палацы ветэранаў). Пазнаёмілася з яго творчым кіраўніком Мікалаем Хвесюком, дацэнтам Акадэміі музыкі, канцэртмайстрам Наталляй Таратуткай, цудоўнымі спевакамі. У той час у хоры было больш за 60 чалавек. Я ўлілася ў калектыў, і ўся душа мая была там, у музыцы. Вось так з песняй праляцелі 17 гадоў. Выступалі мы шмат, арганізоўвалі канцэрты на ўсе святы: 8 Сакавіка, 23 Лютага, Дзень Перамогі, Дзень Незалежнасці, выступалі перад урадам, у Палацы спорту, аб'ездзілі ўсе воінскія часці ў Беларусі, дабраліся да Германіі. Заўсёды нашы канцэрты цёпла прымалі. У той час я была арганізатарам многіх канцэртаў.

Музычнай адукацыі не маю, але так зачаравана музыкай, што хацела, каб і ўнукі мае (іх у мяне чацвёра) яе палюбілі. Вадзіла ўсіх у музычную школу, і, гледзячы на іх, таксама стала вывучаць ноты. Потым у хоры пачала спяваць па нотах. Аднойчы нарадзілася песня "Воспоминания":

*Мчатся дни, уходят*
*наши годы,*
*Так и вся уходит наша*
*жизнь,*
*Позабыты многие*
*невзгоды,*
*Но тебя не в силах я*
*забыть.*
*И, казалось, не любила*
*И, как будто, не ждала.*
*Почему же в снах*
*с волшебной силой*
*Ты зовешь те юные года?*

Гэта песня выконвалася на абласным конкурсе і заняла там першае месца, а я атрымала званне лаўрэата. Гэта мяне вельмі натхніла, і праз некаторы час я напісала другую лірычную песню "Расставанне". Выконвае яе дуэт Галіна Бурняшая і Віктар Новікаў. Пасля склала песні "Вяночак", "Дорожка-дороженька", "Судьба", дзіцячую песню "Мой коник" і іншыя.

Я пішу словы і прыдумваю мелодыі, а ноты падбіраюць цудоўныя музыканты Дзмітрый Касцюкевіч, Дзмітрый Холад. Я вельмі ўдзячна Мікалаю Хвесюку, які дапамог стаць на сцежку творчасці, падбадзёрвае, бярэ мае песні для выканання іх хорам.

Прыдумваю таксама мелодыі на словы рускіх і беларускіх паэтаў. Натхняе творчасць Афанасія Фета. Потым зацікавілася беларускімі паэтамі, асабліва блізкай здалася творчасць Генадзя Бураўкіна. Песня "Балада пра мінёраў" прысвечана майму мужу Міхаілу Сакалову, які ў арміі быў мінёрам, хадзіў побач са смерцю. Песня была выканана Дзмітрыем Холадам. Не так даўно стала прыдумваць мелодыі да вершаў Раісы Баравіковай.

Мяне цікавяць розныя тэмы. Дзяцінства і юнацтва былі апалены вайной, не вярнуўся з нямецкага палону бацька, брат змагаўся за Перамогу, так што вельмі блізкая мне патрыятычная тэматыка. Такіх песень у мяне дванаццаць: сярод іх "Плошча Перамогі" на словы Астрэйкі. Ёсць песні на лірычную тэму — у іх ліку "Апошняя сустрэча" на словы Раісы Баравіковай, філасофскую — "Хлеб і кніга", "Жыццё — адно імгненне". Усяго з 1996 года нарадзілася сорак пяць песень. На словы Міхаіла Пазнякова напісана некалькі дзіцячых песень, яны друкуюцца ў газеце "Зорька", часопісах "Качели", "Музычнае выхаванне". Усе свае песні запісваю на касету, калі становіцца сумна, слухаю і працягваю працаваць далей.

Многія мае творы выконвае хор "Спадчына", песню "Родная мова" на словы Ніла Гілевіча развучваюць у школах, песня "Елка" выконваецца дзіцячым ансамблем у школе пры Доме Міласэрнасці. А што трэба аўтару? Каб яго песні не ляжалі мёртвым грузам у пісьмовым стале. Я лічу сябе шчаслівай у гэтым плане, бо тэксты маіх песень з нотамі друкуюцца, а самі яны выконваюцца на сцэне. А ў хуткім часе, магчыма, збудзецца мая самая запаветная мара — вядомы ансамбль (які, я не гавару, каб не сурочыць) выканае песню "Тры сястры" (пра Беларусь, Расію і Украіну) на вялікай сцэне.

**Кацярына НЕМАГАЙ.**

**ВЯНОЧАК**

Allegretto — Словы і музыка Н.Сакаловай

1. Ой, дзяў-чы-на, дзяў-чы-но-нька, вы-йдзі да мя-не! Дай мне гля-нуць ў тва-е во-чы ды аб-няць ця-бе, ды-аб-няць, ды аб-няць, ды аб-нянь ця-бе.

**УСЁ ЖЫЦЦЁ--АДНО ІМГНЕННЕ**

Сл. Н.Броўкі — Муз. Н.Сакаловай

Andante

**АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА**

Сл. Р.Баравіковай — Муз. Н.Сакаловай

Andante

1. А-звуц-ца ху-тка сне-га-па-ды Пра іх у-жо га-во-раць ве-тры. А мы з та-бой зі-ме не ра-ды у гэ-ты ве-чар не-пры-ве-тны. А мы з та // ве-тны. // 2. У час а-пош-ня-е су-

***ВЯНОЧАК.***

*Выйшла, выйшла дзяўчынонька*
*У велічы-красе...*
*Можа гэтая сустрэча*
*Шчасце прынясе.*
*Кліча рэчанька за хатай*
*Звон празрыстых вод.*
*Там і хлопцы, і дзяўчаты*
*Ладзяць карагод.*
*Кліча луг квяцісты ў госці,*
*У вясёлы час,*
*Ён адорыць прыгажосцю,*
*Улагодзіць нас.*
*З любым мы рамонкі рвалі,*
*Ды сплялі вянок.*
*Усміхаліся нам далі,*
*І спяваў лужок.*
*Хай вянок, як тая зорка,*
*Свеціць нам заўжды.*
*На змярканні і на золку*
*Доўгія гады.*

***УСЁ ЖЫЦЦЁ — АДНО ІМГНЕННЕ.***

*Усё жыццё — адно імгненне,*
*Зацвіў ...*
*Час прыйдзе адцвісці.*
*За пакаленнем — пакаленне:*
*Усё мяняецца ў жыцці.*
*Ідзе наперад маладое.*
*Не мае свет яму граніц.*
*Прыносіць новае такое,*
*Што ў сэрцы зайздрасць*
*зашчыміць.*
*Ах, колькі, колькі, іх шчаслівых,*
*Дапытных, юных навакол! ...*
*Мы ж каласамі спелай нівы*
*Глядзім задумліва на іх.*

***АПОШНЯЯ СУСТРЭЧА***

*Азавуцца хутка снегапады,*
*Пра іх ужо гавораць ветры,*
*А мы з табой зіме не рады*
*У гэты вечар непрыветны.*
*У час апошняе сустрэчы*
*Засланы вочы ціхім жалем,*
*Пакутліва накрыла плечы*
*Я пры табе пуховым шалем.*
*Глядзіш адчужана, зласліва*
*— Я для цябе ўжо чужая!*
*На санках снежаньскіх*
*імкліва*
*Да нас расставанне*
*пад'язджае.*
*Адводжу позірк свой маўкліва*
*І час зацягваю упарта!*
*З табою не была шчаслівай,*
*А без цябе і жыць не варта!*

Аўтограф

# Выпрабаванне правінцыяй

**ЯНА ХОЧА ПІСАЦЬ ТАК, КАБ АБУДЖАЦЬ У ДУШАХ ЛЮДЗЕЙ ЛЮБОЎ, УЗВЫШАЦЬ ТОЙ "МАЛЕНЬКІ ВЯЛІКІ СВЕТ", У ЯКІМ ВЕЛІЧНАЯ ПРЫРОДА І ЧАЛАВЕК ЖЫВУЦЬ У ГАРМОНІІ**

### РОДАМ З БЯЛЫНІЧ

Ларыса Журавовіч родам з Бялыніч, гарадскога пасёлка ў Магілёўскай вобласці. Адсюль у свой час выправіўся ў вялікі свет сціплы малады чалавек — Вітольд Казтанавіч Біруля, які стаў у далейшым вядомым мастаком, акадэмікам Расійскай Акадэміі жывапісу. Сваю любоў і адданасць беларускай зямлі ён назаўсёды засведчыў прыстаўкай да прозвішча — Бялыніцкі, сваімі непаўторнымі творамі. Ларыса Журавовіч таксама мастак. І яе выбар жыццёвага шляху так альбо інакш быў звязаны з творчасцю Бялыніцкага-Бірулі, яго стаўленнем да мастацтва, якое мае на ўвазе духоўную дзейнасць, тонкімі і пранікнёнымі пейзажамі, што ўслаўляюць прыроду. Адвучыўшыся пяць гадоў у Беларускай Акадэміі мастацтваў на аддзяленні графікі, а потым яшчэ тры ў акадэмічных майстэрнях, якімі кіраваў вядомы беларускі графік Георгій Паплаўскі, Ларыса без ваганняў вырашыла вярнуцца дамоў, у Бялынічы. Па-першае, яе там чакалі і не маглі дачакацца не маладыя ўжо бацькі. А па-другое, дзяўчыне хацелася працягнуць справу Бірулі: займацца творчасцю, пісаць так, каб абуджаць у душах людзей любоў, узвышаць той "маленькі вялікі свет", у якім велічная прырода і чалавек жывуць у гармоніі.

### ПЛЮСЫ І МІНУСЫ ВЯСКОВАГА ЖЫЦЦЯ

Прымяненне сваім здольнасцям Ларыса знайшла ў Бялыніцкай школе мастацтваў, дзе стала выкладаць дзецям маляванне. А ўвесь вольны час яна праводзіла ва ўласнай майстэрні, дзе з асалодай пісала вясковыя нацюрморты, партрэты сельскіх жыхароў, якіх яна так добра ведала з дзяцінства. Вынікам напружанай работы была яе персанальная выстава ў Мінску ў Палацы мастацтва, якая напоўніла водарам простага, натуральнага жыцця, сапраўдных каштоўнасцей мастацкую атмасферу сталічнага горада. Свет адлюстраваных мастачкай рэчаў быў урачыста просты і спакойны, значны і самадастатковы. Сваімі работамі Ларыса Журавовіч быццам хацела сказаць, што ў мастацтве няма правінцыі.

…Прайшло ўжо каля 10 гадоў пасля трыумфальнай выставы ў Мінску мастачкі з Бялыніч, 15 — як вярнулася ў бацькоўскі дом пасля заканчэння вучобы (а вучылася яна ў агульнай складанасці гадоў 15 — у школе-інтэрнаце для адораных дзяцей, потым у вучылішчы, акадэміі і акадэмічных майстэрнях). Чым быў напоўнены гэты час? Які вынік яе творчай і педагагічнай работы ў родных мясцах?

—Жыццё дастаткова складанае цяпер для ўсіх, — кажа Ларыса, — а ў правінцыі — тым болей. Дзве стаўкі ў школе — гэта тры дні ў тыдзень я занята з ранку да вечара, а два — з ранку да абеду. Колькі часу застаецца на творчасць, палічыць не складана. А ёсць жа яшчэ гаспадарка, пасля смерці бацькі значную частку работы даводзіцца ўзяць на сябе. Вось толькі карову даіць не бяруся...

Як аказалася, не такое спрыяльнае для творчасці тутэйшае ціхае і размеранае жыццё. Мастацтва ва ўяўленні сельскіх жыхароў — абстрактная, неканкрэтная рэч. Канкрэтныя толькі зямля, карова, бульба... А карціна — гэта балаўство, цацка, прадмет раскошы. На пытанне суседзяў, што яна малюе і колькі каштуе "малюнак", Ларыса адказвае неканкрэтна, бо тут людзі жывуць вельмі сціпла і нават не ўяўляюць сапраўднага кошту мастацкага твора. Таму Ларыса іншым разам проста дарыла свае работы тым, каго яна пісала.

### НЕБА ПАЧУЛА ЯЕ МАЛІТВУ

У рэальнасці, як кажа мастачка, многае ў жыцці атрымалася зусім не так, як меркавалася спачатку. Работы правінцыяльнага мастака ў сталічныя мастацкія салоны бяруць па самых нізкіх цэнах, якія ледзь перавышаюць выдаткі на фарбы, палатно і рамы. Падстройвацца пад густы непатрабавальнай публікі і працаваць на кан'юнктуру яна не хацела і на магла сабе дазволіць. За ўвесь гэты час толькі аднойчы ўдзельнічала ў міжнародным пленэры.

Ад недахопу кантактаў, зносін, магчымасці бачыць новыя выставы, чытаць часопісы па мастацтву яна аднойчы не вытрымала і на цэлы месяц паехала ў Маскву, дзе кожны дзень хадзіла па розных музеях і галерэях, заседжвалася дапазна ў бібліятэках, атрымлівала асалоду ад гарадскога шуму, ад таго, што яна знаходзіцца ў агромністым натоўпе...

І неба пачула яе малітву. Вядомы расійскі мастак, акадэмік Сідараў запрасіў Ларысу Журавовіч з выставай у сталіцу белакаменнай. Яна прайшла з вялікім поспехам і натхніла беларускую мастачку на далейшыя здзяйсненні.

Ну, а што ж дзеці, з якімі займаецца маляваннем Ларыса Журавовіч? Сярод іх, як яна лічыць, ёсць нямала здольных, якія мараць пра мастацтва. Але паехаць вучыцца ў горад у гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак наўрад ці ёсць шансы, таму што ў бацькоў няма сродкаў на іх утрыманне ў сталіцы. А значыць, няма магчымасці атрымаць паўнавартасную мастацкую адукацыю.

### У КВАДРАТ ВЫДАТНА ЎПІСВАЕЦЦА КОЛА

— Выпрабаванне правінцыяй, — кажа Ларыса, — напэўна, не менш простае, чым выпрабаванне славай, грашыма, раскошай. Але я стаўлю сабе высокія патрабаванні як да чалавека і як да мастака. Спрабую пераламіць абставіны, ад якіх я залежу, рухацца ўперад, будаваць сябе. Свет рэчаў, што вакол мяне, які ў свой час стаў галоўным аб'ектам мастацкага даследавання, ужо засвоены мною. Я ўсё сказала, што хацела. Цяпер хочацца святла, паветра. Нават калі я і не стану пейзажыстам, мне ўсё роўна неабходна паблукаць у прасторы, а потым, можа быць, вярнуцца назад у свой "маленькі" свет.

Ларыса Журавовіч, у адрозненне ад многіх беларускіх мастакоў, якія змаглі вырвацца ў 90-ыя гады мінулага стагоддзя ў Еўропу, сарыентаваць сябе на мадэрн і модны канцэптуалізм і тым самым упісацца ў яе мастацкі кантэкст, працуе ў рэалістычнай манеры. Як і Малевіч, яна ў захапленні ад формы квадрата. Чаму? Ды таму, што туды выдатна ўпісваецца кола. Па словах Ларысы, у мастацтве яна не сябе бачыць, як прадмет адлюстравання, а спрабуе паказаць свет, дзеля чаго пэўным чынам групуе прадметы, паказваючы свае адносіны да іх.

— У Снайдэрса ёсць нацюрморт, — каменціруе Ларыса, — на ім шмат усякіх прадуктаў — мяса, рыба, садавіна, гародніна, а побач стаіць прыслуга. Дык вось, у маім уяўленні мастак асацыіруецца з гэтай прыслугай, што падае талерку са сваім "творам" і чакае, што скажа наконт яго фантазій і майстэрства глядач.

**Ганна ПІЛАТОВІЧ.**

Пятрусь КАПЧЫК

# Гонар мундзіра

## Гумарэска

*Я чалавек інтэлігентны. І вельмі цікавы, асабліва ў кампаніі: ведаю безліч анекдотаў. Павінен вам сказаць, што са мною ад суму не сканаеш. Але тое, пра што хачу вам шчыра расказаць зараз — не анекдот, а бывальшчына. Таму вам не давядзецца рагатаць. Скажу шчыра, не да рогату мне было.*

*Справа сур'ёзная, аб гонары мундзіра. А ўсё пачалося з таго, што я купіў кулёчак цукерак-дражэ. Адным словам, каляровы гарошак. Крупнік, вядома, з такога гарошку не зварыш, а вось каша заварылася! Ды яшчэ якая! Прышоў я з тым гарошкам на працу і каля нашай сакратаркі, Алескі, спыніўся, каб пачаставаць яе ласункам. Разарваў цалафан і ўбачыў на шматліках гарошынах плямкі. І пах такі, быццам ад дызельнага рухавіка. Няёмка мне стала перад Алескай. Папрасіў прабачэння. Тут жа званю дырэктару кандытарскай фабрыкі і, павінен вам сказаць, з вялікім абурэннем пытаю:*

*— Якім чынам ваша фабрыка дадумалася выпускаць дражэ, якое можна выкарыстоўваць замест дызельнага паліва?*

*Дырэктар намагаўся мяне супакоіць, але я ўжо сеў на свайго коніка і працягваю на ім гарцаваць:*

*— Ды па вас даўно сумуюць фельетоны ў "Голасе Радзімы"! Ды я напішу на вас КРУ, дзяржстандарт, санстанцыю і жаночы савет нашага ЖЭКа!*

*І толькі пасля гэтага вырашыў паслухаць, што гаворыць дырэктар. А ён, павінен вам сказаць, каб абараніць скампраметаваную прадукцыю і гонар свайго мундзіра, просіць:*

*— Дайце свой хатні адрас, наш прадстаўнік неадкладна прыбудзе да вас, каб папрасіць прабачэння і замяніць цукеркі.*

*"Бач, майго адраса захацелася яму! — думаю. — Адраса мне не шкода".*

*Кажу:*

*— Калі ласка, занатоўвайце.*

*Сапраўды, неўзабаве прыбыў прадстаўнік фабрыкі. Нават не стаў чакаць да вечара — на службу да мяне прыкаціў. Выклікаў у калідор, завёў у куточак, палез у дыпламат і выцягнуў адтуль дзве каробкі цукерак "Асарці", працягвае іх мне.*

*— Вы памыляецеся, — кажу яму. — Я купіў кулёчак гарошку, коштам дзвюх газет, а вы мне — дзве каробкі дарагіх цукерах. Нераўназначная замена.*

*— А гонар мундзіра? Выбачайце, гонар фабрыкі нам яшчэ даражэйшы, — прызнаўся прадстаўнік. — Вось бярыце і прабачце ўжо нам. Мы вельмі вам удзячны за своечасовы трывожны сігнал.*

*Што ж рабіць? Давялося ўзяць тыя каробкі. На радасцях адну з іх прэзентаваў шыкоўнай Алесьцы, а другую дахаты прыхапіў. Чаяваў вечарам у сямейным коле, і, павінен вам сказаць, вельмі спадабаліся ўсім нам гэтыя цукеркі з гарбатаю "Прынцэса Кандзі". А за гарбатаю прыйшла да мяне думка: а ці не забракаваць заўтра зранку доктарскую каўбасу, якую сёння купіла жонка? Шчыра кажучы, яна смачная, ды, бадай, усё-такі не такая каларыйная, як, да прыкладу, "Кракаўская" ці "Маскоўская". Не тыя калорыі, не тыя! Раніцай званю дырэктару мясакамбіната.*

*— Павінен вам сказаць: купіў кіло вашай доктарскай каўбасы, пра якую "Звязда" пісала, быццам бы яна ўдастоена Знака якасці. Але, пабачце, у гэтай каўбасе я знайшоў гузікі ад портак і шматок газеты з адрасам рэдакцыі. Збіраюся вось зараз звярнуцца па гэтым адрасе з вострым сігналам пра бракаробаў з вашага прадпрыемства.*

*І перш чым пакласці тэлефонную трубку, на ўсялякі выпадак, з уласнай ініцыятывы, назваў дырэктару свой хатні адрас і месца працы.*

*Пасыльны прадстаўнік мясакамбіната не забавіўся. Ён даставіў да маёй хаты добры пакет каўбасы "Маскоўскай" з букецікам кветак, а з ім — каляровую паперку з вось гэтым кранаючым душу тэкстам: "Прыміце шчырае прабачэнне і падзяку дырэкцыі і ўсяго калектыву мясакамбіната за сігнал аб недабраякаснасці "Доктарскай" каўбасы".*

*Анекдот? Не, бывальшчына.*

*І тут я адчуў, павінен вам сказаць, як калаўротам завіхурыла мая фантазія. Я бракаваў кефір, за які мне тут жа дастаўлялі падвоеную норму вяршкоў, кільку, замест якой ласаваўся івасі...*

*Пасля падобных званкоў адрамантавалі мой дапатопны гадзіннік, газавую калонку і нават канапу ў пакоі маёй цешчы.*

*Так, чалавек я інтэлігентны. Вельмі цікавы. Асабліва ў кампаніі, бо ведаю безліч анекдотаў. Але на гэты раз расказваў толькі бывальшчыну. Пераканаліся зараз, як важна часцей нагадваць людзям пра гонар мундзіра? Павінен вам толькі дадаць, што на мінулым тыдні мною зацікавіўся ўчастковы міліцыянер Жук. Прыходзіў да нас на кватэру, распытваў, як гэта мы без чаргі здолелі набыць "Мерседэс". Я адказаў, што гэта мая асабістая тайна. А Жук заявіў, што лічыць гонарам свайго мундзіра своечасова раскрываць "тайны". Баюся зараз, каб і на мой мундзір якая плямка не трапіла.*

Зваротная сувязь

Літва, Вільнюс

# Дзень роднай мовы

21 лютага школа імя Ф. Скарыны, што ў Вільні адзначыла міжнародны Дзень роднай мовы. Гэта свята асаблівае для нашай школы, таму што, жывучы за мяжой, чуючы розныя мовы і размаўляючы на дзяржаўнай, вельмі хочацца захаваць родную. У гэты дзень мы атрымліваем віншаванні, ладзім выхаваўчыя і пазнавальныя мерапрыемствы.

На гэты раз свята пачала настаўніца роднай мовы і літаратуры Дзіяна Стахновіч. Вучням была прадстаўлена магчымасць удзельнічаць у завочнай экскурсіі "Янка Купала ў дыялогу культур", каб глыбей пазнаёміцца з жыццёвым і творчым шляхам народнага паэта, зразумець вытокі яго непаўторнага таленту.

Літаратурна-музычная кампазіцыя "Той люд жыве, што свае песні мае" не пакінула абыякавымі слухачоў. Песні на роднай мове заўжды хвалююць, кранаюць душу. У час свята іх выконваў вакальны ансамбль "Лянок", якім кіруе таленавітая настаўніца музыкі Валянціна Кавальчук. Колькі арыгінальных сюжэтаў, кантрастаў, настрояў! Нібы магічныя чары, уздзейнічаюць лірычнае слова, мелодыя на слухачоў. Хочацца спяваць разам з усімі, смяяцца і смуткаваць, кахаць і верыць, хочацца не расплёскаць той поўны човен пачуццяў, што абуджаюць беларускія песні.

Таксама ў гэты дзень была прадстаўлена праектная праца "Шляхамі Ф. Скарыны". За яе нашы вучні тры гады таму атрымалі 3-яе месца на Рэспубліканскім конкурсе, зараз падраслі малодшыя, якія вучацца прадстаўляць праекты па-новаму. Нельга забываць сваё імя, што мы спадкаемцы Скарыны.

Не абыходзіцца свята без адкрытых урокаў. Сёлета ў Дзень роднай мовы іх адбылося два: у 4-ым класе пад назвай "Мова твая і мая" ( настаўнік Ларыса Слесарава) і ў 8-ым — "Жыццё і творчасць І. Мележа" (настаўнік Алена Базюк).

Дні роднай мовы маюць відавочны выхаваўчы эфект: дапамагаюць адчуць сябе часткай калектыву, згуртоўваюць, развіваюць пачуццё адказнасці.

Дні роднай мовы — гэта своеасаблівае выйсце са стану паўсядзённасці. Рыхтуючыся і ўдзельнічаючы ў іх, вучні заўсёды чакаюць чагосьці незвычайнага, цікавага, яркага. Такія дні істотна дапаўняюць урокі літаратуры і мовы, замацоўваюць і пашыраюць набытыя раней веды, адкрываюць перад школьнікамі шырокае поле дзейнасці, знаёмяць з традыцыямі продкаў, са славутымі людзьмі, якія ў пэўны час жылі і працавалі ў нашым горадзе.

Каб мы не адарваліся ад сваіх каранёў, захавалі набытае продкамі і змаглі перадаць наступным пакаленням, неабходна захоўваць моладзь, паказваць прыклад. Хай роднае слова не змоўкне ніколі, каб не парвалася "жывая сувязь лёсаў і часоў."

**Алена БАЗЮК, настаўніца.**

**Прызнанне**

# "Бежанцы і мы"

***"Голас Радзімы" прызнаны лепшым СМІ ў конкурсе "Бежанцы ў Беларусі". Міжнароднае грамадскае аб'яднанне па вывучэнні ААН падвяло вынікі конкурсу сярод сродкаў масавай інфармацыі "Бежанцы ў Беларусі", які праводзіцца прадстаўніцтвам Упраўлення Вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў у Беларусі.***





Хочацца заўважыць, што такім чынам газета адзначана ўжо ў другі раз (першы — у 2001годзе). "Голас Радзімы" пастаянна звяртаецца да праблемы бежанцаў і міграцыі, расказвае пра працу дзяржаўных устаноў, грамадскіх і міжнародных арганізацый, якія працуюць у згаданым накірунку. Звяртаемся мы таксама і да лёсу асобных людзей, якія знайшлі ў сабе сілы на сваёй другой радзіме — Беларусі — пачаць новае жыццё. Для нас гэтая тэма вельмі важная, і тым больш прыемна, што асвятленне тэматыкі падтрымліваецца УВКБ ААН. Супрацоўніцтва газеты з гэтай міжнароднай арганізацыяй з'яўляецца эфектыўным партнёрствам. Як вядома, дзейнасць прадстаўніцтва УВКБ у нашай краіне ацэньваецца як найбольш карэктная і выніковая.

Ілья Тадаровіч, прадстаўнік УВКБ ААН у Рэспубліцы Беларусь, звяртаючыся да пераможцаў конкурсу, сказаў, што вельмі важным з'яўляецца ўклад сродкаў масавай інфармацыі ў даўядзенне да грамадскасці гуманнай ідэі падтрымкі бежанцаў як аднаго з самых уразлівых слаёў насельніцтва. Беларусь, дадаў І.Тадаровіч, робіць значныя намаганні ў заканадаўчай, адміністрацыйнай галіне ў сферы падтрымкі бежанцаў і кіравання міграцыйнымі працэсамі.

У нашай краіне бежанцамі прызнана 788 чалавек. Значэнне дзейнасці СМІ нельга пераацаніць, бо кожная публікацыя ці перадача — гэта прыступка да інфармавання і асветы грамадскасці ў гэтай галіне.

Сярод пераможцаў конкурсу ў розных намінацыях часопіс "View", радыёжурналісты Юрый Зайцаў і Наталля Сцёпачкіна, карэспандэнт БелТА Алена Прус...

**Алена СПАСЮК.**

НА ЗДЫМКАХ: прадстаўнік УВКБ ААН у Беларусі Ілья ТАДАРОВІЧ (у цэнтры) з пераможцамі конкурсу; супер-прыз прымае галоўны рэдактар "Голасу Радзімы"Наталля САЛУК.

**Фота Сяргея ДЗЕНІСЕНКІ.**

**"Беларусь TV"**

## З 27 лютага вяшчанне па выхадных днях — кругласутачнае

***Праведзеныя даследаванні паказалі, што тэлеглядачы сёння перш за ўсё хочуць атрымаць інфармацыю аб сучасным жыцці Беларусі. Таму ў сетцы тэлеканала з'явіўся яшчэ адзін паўтор праграмы "Панарама", выніковы выпуск штодзённай праграмы "Навіны", а таксама цыкл дакументальных фільмаў, падрыхтаваны Агенцтвам тэлевізійных навін Белтэлерадыёкампаніі.***

***Нараўне з праграмамі "Сфера інтарэсаў", "Зямельнае пытанне", "Грамадская бяспечнасць", якія даюць дакладны адказ на пытанне "Ці паспяховы беларускі шлях развіцця суверэннай дзяржавы?", новыя дакументальныя фільмы раскрываюць эфектыўнасць беларускай эканомікі, палітычнай сістэмы, дзяржаўных інстытутаў.***

***Пасля распаду Савецкага Саюза кожная з пятнаццаці рэспублік пайшла сваім шляхам, але тым не менш развівалася па агульных стандартах геапалітыкі. Да чаго прыйшлі братэрскія рэспублікі? Спробу прааналізаваць 15 гадоў суверэнітэту кожнай з іх узялі на сябе беларускія журналісты ў дакументальным серыяле "Пятнаццаць", які выйшаў у эфір на тэлеканале "Беларусь-TV" 27 лютага 2006 года.***

**www.belarus21.by/main**

# На Еўрабачанні-2006 будзе саліраваць Паліна Смолава




***Паліна Смолава будзе выступаць за Беларусь у Афінах на Еўрабачанні. Такі выбар журы пасля таго, як на рэспубліканскім адборачным конкурсе песні "Еўрабачанне-2006" вызначыліся тры прэтэндэнты.***



Упершыню выступленне артыстаў было паказана ў прамым эфіры Першага нацыянальнага тэлеканала. Пасля канцэрта адбылося інтэрактыўнае галасаванне. І тут жа былі названы лепшыя на думку гледачоў выканаўцы. Гурт "Лявоны"( "Come Back") набраў 2 597, Алена Грышанава ("You Can't Stop This Dance") — 2 839 галасоў. Больш за ўсіх гледачоў — 3 816 — падтрымала Паліну Смолаву. Паліна апошнім часам, бадай, самая прыкметная беларуская спявачка. Мінулым летам яна перамагла на "Славянскім базары ў Віцебску" і пасля шмат выступала. Была ўдзельніцай безлічы ток-шоу і сама стала вядучай тэлепраграмы "Добрай раніцы, Беларусь!". Да яе прыязна ставяцца як прафесіяналы, так і гледачы, якія стварылі фанклуб.

Што ж тычыцца шоу, што адбылося ў Палацы Рэспублікі і транслявалася на БТ, відавочна, што яно было больш цікавым, чым падобнае летась. Беларуская эстрада, пра існаванне якой некалькі гадоў таму толькі здагадваліся, заявіла пра сябе ў апошні час даволі ўпэўнена. Міхаіл Фінберг, кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь яшчэ на пачатку выступленняў артыстаў заўважыў, што аранжыроўкі беларускіх выканаўцаў сталі больш цікавымі.

"Лявоны" пэўны час працавалі ў "Песнярах". І іх уплыў відавочны ў выканаўчым стылі Паўла Зайца, які без усялякага шоу падчас свайго нумара змог выйсці ў лідэры, праспяваўшы лірычную песню пад суправаджэнне скрыпкі і віяланчэлі.

Сярод астатніх удзельнікаў зіхацць ўсходняя зорка Гюнеш, якая даўно пакарыла беларускі хітпарад. У гэтай прыгожай спявачкі добры голас і яркі стыль. Нарадзіўшыся ў азербайджанскай сям'і ў Баранавічах, яна лічыць сябе і беларускай. І ў яе сапраўды складаецца яркая кар'ера. Так, на "Славянскім базары ў Віцебску", да прыкладу, яна стала другой. А ў адборачным туры на Еўрабачанне — чацвёртай.

Большасць выканаўцаў поўныя рашучасці ўдзельнічаць у адборачных турах на Еўрабачанне і ў наступныя гады. Спявачка, якая на сцэне называе сябе Прыма-Vera, заўважыла, што ўдзел у конкурсах — гэта своеасаблівы трэнінг, які падымае беларускую эстраду на больш якасны ўзровень.

У беларускім конкурсе брала ўдзел і спявачка з Польшчы, Малгажата Анджаевіч, у якой ужо ёсць вопыт удзелу ў Еўрабачанні. Летась яна была на сцэне Палаца спорту ў Кіеве, спявала бэк-вакалам песню "Czarna Dziewczyno" з польскім дуэтам і выконвала сола на акардэоне. На жаль, у фінал нумар не трапіў. Беларускі адборачны тур уразіў Малгажату добрай арганізацыяй і якасным шоу.

Большасць песень, што выканалі артысты, былі напісаны беларускімі аўтарамі. Усе, акрамя дзвюх, гучалі на англійскай мове. Лідэр глядацкага галасавання, Паліна Смолава, спачатку заявіла на конкурс песню "Сайт адзіноты", але потым змяніла яе на англамоўную "Мама" (музыка Сяргея Сухамліна, словы Сяргея Гасцюгова). Пра сваю песню Паліна кажа, што з ёй можна спадзявацца на поспех на еўрапейскай сцэне.

Яна яшчэ будзе шмат працаваць над сваім нумарам, але значныя вынікі яе намаганняў ужо былі відавочныя на адборачным канцэрце. Паліна выбрала вельмі экспрэсіўны вобраз і паказала нядрэнныя харэаграфічныя здольнасці. Нават яе фанаты былі прыемна здзіўлены.

Вельмі хочацца спадзявацца, што такія ж эмоцыі будуць і ў гледачоў Еўрабачання.

Крытыкі кажуць пра Еўрабачанне, што гэта конкурс для хатніх гаспадынь. Ды бышцам галасуюць там суседзі за суседзяў. Перамога Ксеніі Сітнік на дзіцячым конкурсе "Еўрабачанне" прымусіла нас ставіцца да яго больш даверліва. Насамрэч, усе, хто спявае, хочуць апынуцца на сцэне Еўрабачання. Для таго, каб удыхнуць свежае паветра, пабачыць і прадэманстраваць самому ў шоу сусветнага ўзроўню. Гэтага хочуць спевакі з усёй Еўропы і не толькі для сябе. Перамагчы на конкурсе і прымаць у сябе безліч спевакоў, рэпарцёраў і гледачоў (чытай турыстаў) — гэта сапраўды шанс адкрыць сваю краіну свету. Сёння, канешне, так далёка мы не заглядваем, але ўсім вельмі хочацца, каб наш удзел у Еўрабачанні быў прыгожым і дастойным. Поспеху табе, Паліна!

**Алена СПАСЮК.**

НА ЗДЫМКУ: фанаты носяць Паліну СМОЛАВУ на руках.

**Фота БелТА.**

«Голас Радзімы»
Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь;
Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом «Радзіма».

Наш адрас: 220005, Рэспубліка Беларусь, Мінск, пр. Незалежнасці, 44.
Тэлефоны: (+375 — 17) 288 — 11 — 97 (бухгалтэрыя), 288-12-80, 284-76-56, 288- 17- 82 (тэл./факс).
Галоўны рэдактар: 8029- 6- 88-17- 82. Email:golas_radzimy@blz.by

ЧЫТАЙЦЕ «Голас Радзімы» ў ІНТЭРНЭЦЕ: http://www.belarus21.by

Рэгістрацыйнае пасведчанне №81. Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 2218 экз. Заказ 635Г. Падпісана да друку 7. 03. 2006 г. у 12.00.
Газета набрана і звярстана на рэдакцыйным настольна-выдавецкім комплексе. Знакам R пазначаны рэкламныя матэрыялы.
Аддрукавана ААТ «Чырвоная зорка» (220073, г. Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3).
Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», могуць не супадаць.